**У ПАРЛАМЕНЦЕ**
*БАР'ЕР ДЛЯ ПСЕЎДАРЭЛІГІЙ* 2 стар.
**ВЫСТАВЫ**
"ХІМІЯ. НАФТА І ГАЗ" 2 стар.
**МІЖНАРОДНЫ АГЛЯД**
БЕЛАРУСЬ – ААН: СУПРАЦОЎНІЦТВА ПАШЫРАЕЦЦА 3 стар.



**СПАДЧЫНА**
ВЯСКОВЫЯ СВЯТЫНІ СЛУЧЧЫНЫ 5 стар.
**ВАНДРОЎКА**
СУСТРЭЧЫ Ў ЧЭХІІ 4 стар.
ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: АНГЛІЯ, ЛІТВА, УКРАІНА 6 стар.



**ПАСЛЯСЛОЎЕ**
БРОНЗА МУСКУЛАЎ... І КРЫЛЫ ЗА СПІНАЙ 8 стар.
ПРАЦЯГ АПОВЕСЦІ Уладзіміра НЯКЛЯЕВА "ПРАГА" 7 стар.
КРЫЖАВАНКА АД Аляксандра ХАЛЕЦКАГА І Таццяны ПЯТРОВІЧ 8 стар.





**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы




**Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі** **Выдаецца з 6 красавіка 1955 года**

12 чэрвеня 2002 года, № 24 (2790) Цана 140 рублёў E-mail:golas_radzimy@tut.by


*хроніка жыцця*

## АФІЦЫЙНЫ САЙТ

***Сёння кожны грамадзянін Беларусі мае магчымасць звярнуцца да першай асобы дзяржавы з прапановай, заявай або скаргай. Дзеля гэтага дастаткова набраць на камп'ютэры http:www.president.gov.by/. – афіцыйную старонку Прэзідэнта ў Інтэрнэце.***

Акрамя гэтага, на сайце змешчана разнастайная афіцыйная інфармацыя: факты з біяграфіі Прэзідэнта, тэксты ўказаў, даклады, выступленні і прамовы, матэрыялы аб Беларусі, якія друкуюцца ў замежнай прэсе. Нядаўна тут з'явілася інтэрв'ю А.Лукашэнкі, якое ён даў уплывовай нью-йоркскай газеце "The Wall Street Journal".

Розныя раздзелы сайта расказваюць аб актуальных падзеях у жыцці краіны. Асобная старонка, напрыклад, прысвечана маштабнаму праекту ўзвядзення новага будынка Нацыянальнай бібліятэкі.

## БОРТНІК З КАМЯНЕЧЧЫНЫ

***Вырашыў не парушаць сямейную традыцыю жыхар вёскі Відомля Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці Сцяпан АБЛАМСКІ (на здымку).***

І дзед яго Даніла Іванавіч, і бацька Ілля Данілавіч лічыліся лепшымі бортнікамі ў акрузе. Змалку прыахвоціўся да пчалярства і Сцяпан Ільіч, аднак клапатлівая пасада галоўнага інжынера мясцовай гаспадаркі не дазваляла заняцца пчалярствам сур'ёзна. Цяпер, калі ён на пенсіі, на яго прысядзібным участку ўжо 45 вулляў. Сцяпан Ільіч займаецца любімай справай з навуковым падыходам.


Фота БелТА.

## ПАМЯТНЫЯ МАНЕТЫ ПРЫСВЕЧАНЫ ПЕСНЯРАМ

***Сёлета Нацыянальны банк Беларусі выпусціць шэраг памятных манет. Сярод іх – юбілейныя манеты, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама 200-годдзю з дня нараджэння вядомага даследчыка Паўднёвай Амерыкі Ігната Дамейкі.***

Дарэчы, за 6 апошніх гадоў Нацыянальным банкам выпушчаны манеты 27 найменняў з золата, серабра і медна-нікелевага сплаву, прысвечаныя памятным датам нацыянальнага і міжнароднага ўзроўню, юбілеям вядомых дзеячаў культуры і мастацтва, дасягненням беларускага спорту.

Манеты можна набыць у галоўных упраўленнях Нацбанка ў сталіцы і абласных цэнтрах, а таксама ў многіх райцэнтрах. Прычым, дапускаецца іх вываз фізічнымі асобамі за межы краіны ў колькасці не больш за 5 залатых і 10 сярэбраных манет на чалавека. Манеты ж з медна-нікелевага сплаву можна вывозіць за мяжу на суму, якая не перавышае 100 мінімальных зарплат.

## ЖЫЛЛЁВАЯ СУБСІДЫЯ

***Далёка не ўсе жыхары Беларусі маюць магчымасць аплачваць з асабістай кішэні камунальныя паслугі, якія павялічваюцца з кожным месяцам.***

Паводле апошніх даных, сярэдні памер безнаяўнай жыллёвай субсідыі, якая налічваецца сям'і, складае 10,5 тысячы рублёў. У параўнанні з мінулым годам сума субсідый узрасла ў 2,1 раза. Адпаведна на 50 працэнтаў павялічылася колькасць тых, хто мае права на дапамогу. Усяго за студзень-красавік субсідыі атрымала больш за 17 тысяч сем'яў. Больш за ўсё такіх сем'яў у Брэсцкай вобласці, а найменш — у Мінскай і Гродзенскай абласцях і сталіцы.

## "НЯВЕСТА"-МАХЛЯРКА

***Ахвярамі прайдзісветкі з Брэста сталі некалькі грамадзян ЗША, з якімі жанчына звязвалася па Інтэрнэту.***

Супрацоўнікі крымінальнай міліцыі ўстанавілі, што брэстаўчан вадзіла за нос кавалераў на працягу пяці месяцаў. Як высветлілася, яна паведамляла сваім суджаным аб намеры выехаць у ЗША для афармлення шлюбу, а для гэтага патрэбны грошы. Такім чынам махлярка вымантачыла ў даверлівых заакіянскіх жаніхоў 5 577 долараў ЗША.

## ПАДАРУНАК АД ЖУРНАЛІСТАЎ

***Гамяльчанам, якія карыстаюцца паслугамі самага працяглага па адлегласці маршруту аўтобуса № 17, пашанцавала.***

І не толькі ім. Два дні запар для ўсіх пасажыраў гэтага маршруту дзейнічаў бясплатны праезд. Такую дабрачынную акцыю правяла абласная газета "Гомельская праўда", якая ў гэтыя дні адзначала сваё 85-годдзе. Як тлумачаць самі журналісты, мэта акцыі — бліжэй пазнаёміць людзей з газетай, работай рэдакцыйнага калектыву, навінамі і конкурсамі, якія праводзяцца сярод падпісчыкаў.

Падрыхтавала **Ларыса ЛАЗАР.**

**РАДАВОД**


Фота БелТА.

# ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ – 900 ГАДОЎ

***5 чэрвеня споўнілася 900 гадоў з дня нараджэння Прападобнай Ефрасінні Полацкай.***
***НА ЗДЫМКУ: шмат кветак у гэтыя дні ля помніка святой Ефрасінні ў Полацку.***

*факт*

## КЛААС КОАПС — ГАНАРОВЫ КОНСУЛ БЕЛАРУСІ

***Пасол нашай краіны ў Каралеўстве Нідэрландаў Уладзімір Герасімовіч прыняў удзел у цырымоніі ўрачыстага адкрыцця рэзідэнцыі ганаровага консула Рэспублікі Беларусь.***

Рашэннем Міністэрства замежных спраў нашай краіны падданы Каралеўства Нідэрландаў Клаас Коапс прызначаны ганаровым консулам Рэспублікі Беларусь у Хагевеене.

У цырымоніі адкрыцця прынялі ўдзел бургамістр Кувардэна — горада-пабраціма Брэста Я.Янсема, адказныя службовыя асобы бургамістрата Хагевеена, а таксама актывісты і члены дабрачыннай арганізацыі "Stichting Rusland Kinderhulp". Гэта арганізацыя ажыццявіла некалькі праектаў у сельскагаспадарчым сектары эканомікі Беларусі, а таксама займаецца арганізацыяй аздараўлення ў Нідэрландах беларускіх дзяцей.

*прэзентацыя*

## ШАНУЙЦЕ НАРОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ!

***Хто з нас не марыў адшукаць папараць-кветку, хто не "гукаў" вясну, не частаваўся смачнымі аладкамі і блінамі на Масленку?! Традыцыйныя святы, звычаі, абрады захоўваюцца і перадаюцца беларусамі з пакалення ў пакаленне. Вялікую цікавасць выклікаюць яны і ў наш час.***

Аднак літаратуры, у якой даваліся б звесткі і сцэнарныя распрацоўкі для правядзення традыцыйных свят, няшмат. Улічваючы гэта, супрацоўнік Навукова-даследчай лабараторыі фальклору Беларускага дзяржаўнага універсітэта Мікола Котаў падрыхтаваў серыю невялікіх артыкулаў, прысвечаных беларускім каляндарным святам. Гэтыя артыкулы не прэтэндуюць на грунтоўнае даследаванне, а скіраваны больш на тое, каб зарыентаваць чытача ў часе правядзення свят, даць уяўленне аб асноўных святочных абрадах і рытуалах, што адлюстроўваюць светапогляд, эстэтыку і мараль беларускага народа.

Мікола Котаў не толькі даследчык беларускага фальклору, але і практык, які ў прыбліжаным да аўтэнтыкі выглядзе пераносіць на сцэну святочную культуру нашых продкаў. Неаднойчы ў складзе розных гуртоў, як рэжысёр, танцор і музыкант, ён прапагандаваў беларускі фальклор у Расіі, Украіне, Польшчы, Чэхіі, Германіі, ЗША, Францыі.

Рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" і часопіса "Пачатковая школа", пры падтрымцы якіх выйшла ў свет кніга Міколы Котава "Беларускія традыцыйныя каляндарныя святы", спадзяюцца, што яна будзе карыснай і зацікавіць аматараў беларускай народнай культуры. Яна ілюстравана малюнкамі мастака-беларуса Вячаслава Ігнаценкі, які жыве ў Малдове.

Гэта першая кніга ў серыі "Народная скарбонка". Наступным будзе зборнік "Беларускае вяселле" і "Сямейныя традыцыі беларусаў".




***Кніжку можна заказаць або купіць за наяўны ці безнаяўны разлік па адрасе: 220034, г.Мінск, вул. Зм.Бядулі, 9. УП "Рэдакцыя навукова-метадычнага часопіса "Пачатковая школа".***

Спяшайцеся! Наклад усяго 2000 асобнікаў.

Тэл/факс 236-76-06.
Р/р 3012100000306 у ф-ле 520 ААБ Беларусбанк, код 253. УНН 101236542 ОКПО 37413211.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# ПРАГА

## Аповесць

Яму згадаўся анекдот пра мужыка, які ў хаце сваёй сабраўся быў вешацца.

Прывязаў вяроўку, намыліў яе, стаў на зэдаль, надзеў пятлю — і ў апошні момант убачыў на стале недапітую пляшку. "Я павешуся, а нехта дап'е? — падумаў мужык. — Э не, так не пойдзе..." Злез, дапіў, зноў надзеў пятлю — і ўбачыў амаль напалову недапаленую цыгарэту, здаравенны бычок. "Я павешуся, а нехта дапаліць?.." Злез, запаліў, выйшаў на балкон... Уверсе птушкі пяюць, унізе дзеўкі-танкеткі абцасікамі цакаюць... Мужык пстрыкнуў бычком з балкона, азірнуўся на вяроўку, пацягнуўся і сказаў: "Э не... Я павешуся, а жыццё, бач ты, возьме ды наладзіцца!"

Брызін дапаліў папяросу — і яго пацягнула прылегчы.

Ён лёг спінай на канапу і пачуў, як спачатку аднекуль зверху, а потым і знізу, і з усіх бакоў ціха загучала музыка. Са столі пацякло па сценах, па дыванах, зазіхацела на стараданай зброі жаўтаватае святло, нібы гасцёўня напаўнялася сонцам. Святло цякло хвалямі, набягала само на сябе, як вада на ваду пры беразе, і адна хваля падхапіла Брызіна, пад яе яшчэ мякчэй паслалася другая, яны прыўзнялі Андрэя, загушкалі, пасля ўплылі ў яго — і ён сам стаў лёгкай хваляй на хвалях, разам з якімі плаўна-плаўна, паволі-паволі і ў той жа час неверагодна хутка то ўздымаўся вышэй ад столі і неба — да самых зорак, то ападаў ніжэй ад падлогі і зямлі — да самых нетраў...

Ён быў нідзе і ўсюды, ні ў чым і ва ўсім — без канца і пачатку... І ён не адчуваў асалоду, а быў самой асалодай, якая гранічна сама сябе адчувала... Тое зусім маленькае, што яшчэ заставалася ў гэтай асалодзе Брызіным, баялася асалоды не вытрываць і ад яе памерці...

"Гэта немагчыма, не па сілах чалавечых вытрываць такое, але, калі такое ёсць, дык нехта ж гэта адчувае, павінен адчуваць, калі такое ёсць, але хто?.." — думала тое, што было ў асалодзе Брызіным, і Маша-каханне, хваля-каханне, якая была і часткай асалоды і ёю ўсёю, казала, гучала музыкай: "Я, я, я ўсё гэта адчуваю, я і ёсць твая асалода, і маці твая тое ж адчувае, скажыце яму, Марыя Андрэеўна, хай ён не мучыцца, што нас няма, гэта яго самога яшчэ нямашака..." — і Маша-маці, хваля-маці люляла яго і люлялася ў ім, і казала не асобна, а музыкай гучала разам з Машай—каханнем: "Гэта знак табе, каб ведаў, чаго можаш не зведаць і не адчуць, бо грэх на табе, а ты і не сплаціў яго, і не замаліў, табе і Маша пра тое скажа..." — і Маша-дачка, хваля-дачка ахінула яго, прылегла з ім побач і пачала да яго ласіцца, цалаваць і распранаць, казаць, гучаць музыкай: «Ён мяне любіць, любіць, за ўсіх вас любіць, ён праз мяне грахі свае сплаціў і замаліў...»

Колькі гэта доўжылася па часе, ён не ведаў, бо не было ніякага часу... Наогул не было нічога — і было ўсё... Ён уздымаўся і заміраў ад страху, што не апусціцца з гэтай вышыні, апускаўся і заміраў ад жаху, што не ўздымецца з гэтых нетраў. Хваля за хваляй, хваля за хваляй...

Калі сціхла музыка, згасла святло і апалі хвалі, Брызін, вярнуўшыся з палётаў, знайшоў сябе голага на скуранай канапе ў абдымках голай Капіталіны.

Выйшла ўсё, як заўсёды, толькі пад наркатой. Ды яшчэ дачка іграная, з якой ён зараз грэшна кахаўся, трызніў сябе ў ёй на пару з Капіталінай, была ў бальніцы.

Госпадзі, чаму з дачкой, чаму Маша падмяніла ў гэтым трызненні Капіталіну?.. Брызін чуў і чытаў пра ўсялякія эдзіпавы комплексы, але яго гэта ніякім бокам не чапляла — ненармальнасць нейкая, хвароба, такім эдзіпам толькі яйцы адстрэльваць... Іншым разам ён раўнаваў Машу, загадзя пераживаючы тое, што дастанецца яна цыбуку нейкаму ў жонкі — і даўнэйшага цыбука яна ж... Ці яшчэ з якім неграм... Але ж гэта бацькоўскае, нармальнае, што можна ўсвядоміць і зразумець, а ў падсвядомасці — такое!..

— А Лёня дзе?.. — спытаў Брызін.

— Па кветкі пайшоў... — прамармытала Капіталіна. — Я салодкая табе?..

— Як кава з цукрам...

— Я не п'ю каву з цукрам...

— Я ведаю...

— Адкуль?..

— Генеральскія дочкі каву з цукрам не п'юць...

— Я не дачка, я ўнучка...

"Сапраўды, — успомніў Брызін, — Да ўнучак ужо дабраўся, педафіл..."

— Табе колькі гадоў?..

— Дваццаць чатыры...

"Выглядаеш маладзей", — хацеў сказаць Брызін, але не сказаў, бо Капіталіна выглядала і на дваццаць чатыры, і на чатырнаццаць, і на трыццаць пяць.

— І даўно ты...

— Даўно...

— Я не паспеў яшчэ спытацца...

— Я зразумела... Ты заходзіў і ў ванну, і ў спальню, я забылася замкнуць... Але я гэта кіну...

— Кідай...

— Хоць гэта не больш шкодна, чым піць...

— Гэта больш небяспечна, чым піць...

— Небяспечна жыць, ад гэтага паміраюць...

— Ніхто не памірае...

— Як гэта?..

— Калі памрэш, зразумееш...

— А ты памёр?..

— Памёр...

— Як мае бацькі?..

— Як твае лялькі...

— Шкада...

— Чаму?..

— З табой добра...

— А ты са мной была?..

— З табой... А з кім яшчэ?..

— Ну, ці мала з кім... З Лёнем... З бацькам...

— А...

— Што "а"?..

— Гэта "траўка" такая, яна падмяняе... Усё ў нас саміх, а яна выяўляе...

— Дык з табой было такое?..

— Не... Мяне п'яны бацька без ніякай "траўкі", на явe, на гэтай самай канапе... Яны праз тое і ў Анголу з'ехалі, я бачыць яго не магла... Павесіцца спрабавала... Каб не дзед...

Брызін сеў на канапе.

— Як гэта на яве? Бацька?..

— Ты чаго ўсхапіўся? — пашукала яго рукамі Капіталіна. — Хіба не чуў пра такое?.. Давай паляжым...

— Холадна, — падняўся Брызін і пачаў вывaрочваць на правы бок штаны, сцягнутыя з яго Капіталінай разам з трусамі і шкарпэткамі. І штаны, і трусы, і шкарпэткі, і пінжак з кашуляй з генеральнага дырэктара Андрэя Аляксандравіча Брызіна былі новыя, без дзірак.

У вітальні раптам прыглушана зайгралі гімн Савецкага Саюза.

— Колькі ж часу?.. — пачаў шукаць гадзіннік Брызін, але ўспомніў, што Савецкага Саюза няма. — Што гэта?..

— Званок такі дзвярны, — прыпаднялася Капіталіна. — Лёня кветкі прынёс, адчыні...

— А ты?..

— Што я?..

— Ты ж голая, апранайся.

— Я і голая магу кветкі ўзяць, — пайшла да дзвярэй Капіталіна...

Брызін перапыніў яе, заштурхаў разам з трантамі ў ванну і тады ўжо адчыніў дзверы.

Лёня быў без кветак.

— Я ў бальніцу з'ездзіў... — ціха і вінавата прагаварыў Лёня, не пераступаючы парог. — Самсон Самсонавіч прабачаўся... што да вас не дазваніцца...

На Лёневым твары ўсё было напісана, хоць ён не ведаў, як пра гэта ўсё сказаць.

— Вы самі пазваніце...

— Зараз, зараз... — палез па кішэнях шукаць тэлефон Брызін, але яго хіснула да сцяны, ён прываліўся да яе спінай і асеў на падлогу.

Лёню ў дзвярах і Брызіна на падлозе і застала Капіталіна, калі мокрая і голая выйшла з ваннай з трантамі ў руках.

— А кветкі... — Капіталіна асеклася і пры іх на мокрае цела пачала апранацца...

— Каб я магла памяняцца з Машай, я б памянялася, — апрануўшыся, зусім цвяроза і зусім сур'ёзна сказала Капіталіна. — Так мне абрыд гэты мульцік, што болей не магу...

З Лёнем, з Капіталінай ды яшчэ з Бегунком Брызін Машу і пахаваў. Не стаў званіць ні ў які сябрам і сяброўкам, ні Таісіі. Труну несці наняў чужых людзей з пахавальнай канторы. Самсонавых.

Два дні пасля хаўтур ён не выходзіў з дому. Не піў, не еў, нічога не рабіў, ні пра што не думаў — ляжаў бервяном.

"Ты страшны чалавек, Андрэй, ты страшны чалавек!.. Як ты жывеш?.. Табе нельга жыць!.. Ты страшны чалавек..." — круцілася ў мазгах адна фраза, як на кружэлцы.

На трэці дзень ён спусціўся ў падвал, дзе ў яго быў прыхаваны пісталет, вярнуўся ў дом, замкнуўся, паклаў пісталет на стол у кухні і доўга на яго глядзеў...

Як гэта зрабіць?..

Запіску пакінуць?.. Але каму?.. Машы ўсё ён хутка сам раскажа...

Ці не?.. Гэта ж страшны грэх — самазабойства... Можа, і не спаткаецца ён з Машай?..

Там будзе відаць...

Трэба некаму пазваніць, каб заўтра зайшлі... А то ён згніе тут, у Таісіі ключоў няма...

А каму пазваніць?.. Хоць ты сам сабе пазвані...

Пачакаць трэба, пакуль яму нехта пазвоніць... Хто першы — той няхай заўтра і прыходзіць...

Дажыўся — пахаваць няма каму...

А можа, загадаць?.. Калі пазвоніць хутка і пазвоніць жанчына, значыць, Маша яго чакае... Калі не хутка і мужчына, значыць...

Брызін уключыў тэлефон, падцягнуў яго да тапчана ў вітальні, паставіў на падлогу, паклаў побач пісталет, лёг і стаў чакаць...

Мінула пяць марудных хвілін, доўгіх дзесяць, невыносных паўгадзіны... Не званіў ніхто...

Брызін падняў трубку — гудок быў. Кладучы трубку, ён выпадкова націснуў кнопку аўтаадказчыка.

Тэлефон зашапацеў, матаючы мікракасету.

"Тата, я забылася табе ранiцай расказаць, які мне дзіўны сон прысніўся... Быццам мама жывая, такая прыгожая, ні на адным фотаздымку яе такой няма, і я нейк перанарадзілася ў вас, ну, нарадзілася зноў, нанава. І мама кажа табе: давай выкінем яе, нашто нам яшчэ адна такая самая?.. І ты адказваеш: праўда што, адной Машы досыць. А я ведаю, што я не яшчэ адна, а адна ў вас адзіная, той Машы ў вас ужо няма. Мне самой цікава, дзе яна целам падзелася, бо я ў ёй не памірала — і яна ўва мне засталася. Але сказаць пра гэта — дык вы ўдаць сябе, вы ўбачыце, што я ўсё разумею: і хто вы такія, і што адбываецца... А мне хочацца абхітрыць вас і ўсіх, расці, адпачатку ўсё чыста ў свеце разумеючы, толькі робячы выгляд, быццам я звычайнае немаўлятка. Ты кажаш маме: давай я дзе-небудзь на вуліцы яе пакіну, не ў акно ж выкідваць, і я разумею, што ты хітрууеш, нідзе мяне не пакінеш і нікуды мяне не выкінеш, а завязеш у Сочы да свайго названага брата, каб я там шашлыкі на піках ела. Ты паклаў мяне на заднее сядзенне, у дарозе пачалася навальніца, страшная, з грамамі і маланкамі, мы схаваліся ад яе ў цёмны-цёмны і доўгі тунель, а калі з яго выскачылі, — цябе за рулём не было, машына, як шалёная, сама імчалася...

Дзе ты падзеўся?.. Ты нікуды не едзь сёння, чуеш?.. Нармальны бацька за дачкой не сочыць, як шпіён, і праз тое, што яна з неграм цалуецца, нікуды не прападзе. І нашто я ў такога яшчэ раз нарадзілася?.."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Цябе так і няма нідзе... Нінэль званіла, пыталася, ці буду я мамай яе называць... Што ў цябе за бабы ўсе нейкія адмарожаныя?.."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Тата, што адбываецца?.. Зноў званіла Нінэль, істэрычна плакала, каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць... А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся".

Бі-бі,

бі-бі,

бі-бі.

А ты

я-го

за-бі.

"Андрэй Аляксандравіч, гэта доктар... Ваш сотавы не адказвае, але я абяцаў пазваніць... Я ад яе не адыходзіў, была надзея, што яна справіцца. Сэрца стала, мне вельмі шкада..."

Шка-да,

шка-да.

"Андрэй... Не ведаю, што сказаць... Якія ад мяне спачуванні. Мне пазванкі на шыі выпернула, грудзі пабіла... Зразумець не магу, як яно выйшла... Павер толькі, што не хацеў... Ні цябе, ні тым болей Машу... А следчы палохае, што пайду за наўмыснае... Калі толькі ты, як бацька, не заявіш адваротнае... Што не было ніякіх прычын, не магло быць такога... Тады можна будзе круціць што-небудзь тэхнічнае, з тармазамі... Штук за дзесяць яны гэта зробяць... Падумай, Андрэй, прашу цябе... Што табе з таго, што я сяду?.. Машу не вернеш... А нам нейк далей жыць трэба... Кантракт падпісаны — сам ведаеш, які.. Прашу цябе, Андрэй... Я для цябе ўсё, што хочаш, зраблю... Каньяк твой на сябе вазьму, скажу, што па яго і ехаў... Толькі не цягні, бо гэта трэба рабіць зараз, пазней назад нічога ўжо не адкруціш... Чакаю твайго званка... Андрэй, прашу цябе..."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Андрэй, пазвані мне... Хоць скажы, што надумаў... Зрабі штонебудзь, Богам заклінаю..."

Ну, калі Богам...

Брызін пракруціў касету аўтаадказчыка назад.

"...каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць. А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся".

Ці аддаць сініцынскую споведзь мянтам?.. Ты не падумаў, мудзіла, што так магу зрабіць?.. Не падумаў, не да таго было...

Паляжаўшы яшчэ і падумаўшы, ён набраў нумар тэлефона Сініцына.

— Ты "Маздзе" сваёй перадок адкляпаў?

— Не... Не да таго было...

— Вазьмі на фірме машыну.

На дачу да мяне з'ездзім, Маша прасіла сад абрэзаць... Там і перагаворым.

— Дык я ехаць не магу... Шыю не павярнуць, рукі ледзь падымаю...

— Я паеду, у мяне шыя нармальна круціцца. Хай машыну ў мой двор прыгоняць.

Сініцын засумняваўся.

— Нашто некуды ехаць?.. Давай у мяне ці ў цябе спаткаемся...

— Ну, не хочаш — не едзь. Адзін паеду.

— Якая дача, Андрэй...

— Я ж табе сказаў: Маша прасіла.

Працяг. Пачатак у №№ 15–23.

*дабрачыннасць*



Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

# АЎТАЛАБАРАТОРЫЯ АД "ЛЕГАМБ'ЕНЦЭ"

***Перасоўную дыягнастычную лабараторыю коштам 90 тысяч еўра перадала Лунінецкаму раёну дабрачынная арганізацыя з Італіі "Легамб'енцэ" ("Навакольнае асяроддзе").***

Сучаснае абсталяванне лабараторыі на колах дае магчымасць хутка вызначыць стан шчытападобнай залозы ў жыхароў самых аддаленых раёнаў беларускага Палесся, якія пацярпелі ў выніку аварыі на ЧАЭС. Гэта акцыя — частка вялікага чарнобыльскага праекта, які італьянскі бок ажыццяўляе пры ўдзеле Беларускай грамадскай дабрачыннай арганізацыі работнікаў асветы па ахове правоў дзяцей "Дапамога" і пры падтрымцы Міністэрства аховы здароўя Беларусі, а таксама Нацыянальнага анкалагічнага цэнтра. Урачысты акт перадачы дару адбыўся ў Мінску, пасля чаго лабараторыя адправілася на месца "дыслакацыі".

У Беларусі самае высокае ў свеце захворванне дзяцей і падлеткаў на рак шчытападобнай залозы. Гэта хвароба стала нацыянальнай трагедыяй. Сёння злаякасныя новаўтварэнні на гэтым органе сталі ўжо праблемай не толькі дзяцей, як гэта было ў першыя гады пасля аварыі на ЧАЭС, а і падлеткаў, і маладых людзей да 35 гадоў. Такім чынам, пацвярджаюцца меркаванні медыкаў і вучоных, што, атрымаўшы апраменьванне ў дзяцінстве, чалавек можа захварэць і праз 15–80 гадоў. Вось чаму так неабходна аздараўленне дзяцей, якое і дапамагае рабіць "Легамб'енцэ". Неацэнны і падарунак італьянцаў — лабараторыя, сродкі на якую збіралі простыя жыхары невялікіх гарадкоў і вёсак. Яна дапамога выявіць захворванне шчытападобнай залозы ў ранняй стадыі. Сёння ў Беларусі толькі 30 працэнтаў хворых выяўляюцца на першым этапе, але добрае ультрагукавое абследаванне высакакласнымі спецыялістамі можа павялічыць гэты працэнт да 60–70.

НА ЗДЫМКУ: каардынатар гуманітарнай дапамогі ад фонду "Легамб'енцэ" ("Навакольнае асяроддзе") Анджэла ДЖЭНЦІЛІ каля перасоўнай дыягнастычнай лабараторыі.

*памяць*



# ПАМЯТНЫ ЗНАК НА "НЯМІЗЕ"

Па ініцыятыве грамадскай арганізацыі "Цэнтр сацыяльнай абароны "Няміга–99" у Мінскім кафедральным Свята-Духавым саборы праведзена памінальная літургія па загінуўшых 30 мая 1999 года ў падземным пераходзе сталічнай станцыі метро "Няміга". Апоўдні на гэтым месцы, якое стала ракавым для 53 чалавек, адбылося адкрыццё і асвячэнне памятнага знака. На мармуровай плітэ высечаны радкі з Евангелля ад Іаана.

НА ЗДЫМКАХ: у час цырымоніі адкрыцця.


Фота Яўгена КАЗЮЛІ і БелТА.

*міжнародны агляд*

# БЕЛАРУСЬ – ААН: СУПРАЦОЎНІЦТВА ПАШЫРАЕЦЦА

***Супрацоўніцтва Беларусі з Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый – адзін з прыярытэтных напрамкаў знешнепалітычнай дзейнасці нашай дзяржавы.***

Як патлумачыў намеснік міністра замежных спраў **Аляксандр СЫЧОЎ**, Беларусь прымае актыўны ўдзел у штогадовых сесіях ААН, якія накіраваны на падтрымку міру і бяспекі, прадухіленне лакальных узброеных канфліктаў, існуючых глабальных сацыяльна-эканамічных і экалагічных праблем. Акрамя таго пры садзейнічанні беларускай дэлегацыі былі прыняты шэраг важных для Беларусі рашэнняў. Большасць з іх замацавалі неабходнасць уліку спецыфічных патрэб дзяржаў з пераходнай эканомікай пры фарміраванні праграмнай дзейнасці ААН. Гэта дае магчымасць выкарыстоўваць інтэлектуальныя і матэрыяльныя рэсурсы арганізацыі для рашэння тых сучасных праблем, якія стаяць перад нашай краінай. Так, з 2001 года ў Беларусі пачала дзейнічаць Праграма развіцця ААН, разлічаная на 4 гады. Яна прадугледжвае садзейнічанне гэтай арганізацыі ў эканамічным развіцці Беларусі і ахове навакольнага асяроддзя. На гэтыя мэты ў рамках данага дакумента нашай краіне плануецца выдзеліць 9 мільёнаў долараў ЗША.

Нядаўна беларуская дэлегацыя прыняла ўдзел у Міжнароднай канферэнцыі па фінансаванні развіцця, якая адбылася ў Мексіцы. Вынікі гэтага мерапрыемства можна разглядаць, як дадатковую палітычную выснову для пашырэння і аптымізацыі ўзаемавыгаднага дыялога краіны з адпаведнымі фондамі і праграмамі ААН, Сусветнага банка, МВФ і СГА.

Асобай увагі заслугоўвае і супрацоўніцтва з ЮНІСЕФ. 27 мая гэтага года на чарговай сесіі Камітэта ААН па правах дзіцяці адбылося прадстаўленне і абарона другога перыядычнага даклада аб выкананні Беларуссю палажэнняў Канвенцыі Арганізацыі аб правах дзіцяці, якая была ратыфікавана рэспублікай у 1990 годзе. У падрыхтоўцы даклада прымалі ўдзел звыш 100 дзяржаўных і няўрадавых арганізацый. Сярод іх — Беларускі дзіцячы фонд, камітэты "Дзеці Чарнобыля", "Надзея-экспрэс", рэспубліканская асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў, мнагадзетных сем'яў і г.д. Гэты даклад быў надрукаваны ў СМІ, а таксама выдадзены асобна.

Як расказаў Аляксандр Сычоў, адным з ключавых момантаў узаемаадносін Беларусі і ААН па-ранейшаму застаецца мабілізацыя дадатковых рэсурсаў міжнароднага супольніцтва, накіраваных на пераадоленне наступстваў катастрофы на ЧАЭС. У прыватнасці, на 56-й сесіі была прынята рэзалюцыя "Умацаванне міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыі намаганняў у справе вывучэння, змякчэння і мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы". Як лічаць дыпламаты, вельмі важна, што яна не толькі пацвярджае доўгатэрміновы характар гэтага бедства, але і вызначае новую міжнародную стратэгію на чарнобыльскім накірунку. Яе сутнасць у пераходзе ад аказання гуманітарнай дапамогі да аднаўлення ўстойлівага развіцця рэгіёнаў, якія пацярпелі. У красавіку нашу краіну наведаў намеснік Генеральнага сакратара ААН па гуманітарных пытаннях, каардынатар міжнароднага супрацоўніцтва ў рамках ААН па Чарнобылю Кензо Ашыма. Ён правёў шэраг важных сустрэч, у ходзе якіх абмяркоўвалася новая стратэгія. Што ж тычыцца кіраўніцтва краіны, то яно робіць усё магчымае, каб прыцягнуць увагу сусветнага супольніцтва да гэтай праблемы. "Мы спадзяемся, што запланаваны на гэты год візіт у Беларусь кіраўніка Праграмы развіцця ААН Марка Браўна будзе садзейнічаць пачатку рэалізацыі пакета чарнобыльскіх праектаў па пераадоленні цяжкіх наступстваў катастрофы на агульную суму каля 80 мільёнаў долараў ЗША", — адзначае А.Сычоў.

Гаворачы аб адносінах нашай краіны з найаўтарытэтнейшай сусветнай арганізацыяй, нельга абысці ўвагай і такі важны накірунак, як міжнародная бяспека і разбраенне. Дарэчы, на апошняй сесіі Генасамблеі беларускі прадстаўнік быў абраны намеснікам Старшыні Камітэта ААН па разбраенні. Беларуская дэлегацыя сумесна з расійскімі і кітайскімі прадстаўнікамі падрыхтавала праект рэзалюцыі "Захаванне і выкананне Дагавора па абмежаванні супрацьракетнай абароны", якая была прынята большасцю галасоў. Беларускі бок актыўна ўдзельнічаў і ў падрыхтоўцы рэзалюцый "Кантроль над звычайнымі ўзбраеннямі на рэгіянальным і субрэгіянальным узроўнях", "Прадухіленне гонкі ўзбраенняў у касмічнай прасторы", якія таксама былі прыняты на 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі.

Дарэчы, Беларуссю робіцца паслядоўныя шляхі па пашырэнні ўдзелу краіны ў неваенным кампаненце міратворчых аперацый. Экспертамі групы ААН па садзейнічанні і правядзенні адбору праведзена тэсціраванне беларускіх спецыялістаў. Па яго выніках 9 беларускіх афіцэраў МУС і пагранічных войскаў былі залічаны ў рэзерв сіл грамадзянскай паліцыі ААН. Быў таксама падпісаны спецыяльны Мемарандум аб узаемаразуменні паміж Рэспублікай Беларусь і ААН адносна ўдзелу краіны ў сістэме рэзервовых пагадненняў. Зараз, напрыклад, вядуцца кансультацыі па правядзенні ў 2003 годзе ў Мінску двухтыднёвых вучэбных курсаў ААН па арганізацыі функцыяніравання міратворчых місій ААН і іх структурных элементаў.

Як вядома, наша краіна не ўваходзіць у склад Савета бяспекі ААН. Але на адкрытых пасяджэннях гэтага органа беларуская дэлегацыя заўсёды дэманструе высокую актыўнасць. Нашы прадстаўнікі ўнеслі шэраг слушных прапаноў і заўваг, якія тычацца павышэння ролі ААН у падтрыманні міжнароднай бяспекі, прадухілення ўзброеных канфліктаў, барацьбе з міжнародным тэрарызмам.

Ларыса ЛАЗАР.

*стасункі*

# ДРАЎЛЯНЫ КРЫЖ НА МОГІЛКАХ

## ЯК ПЕРАСЦЯРОГА АД ВАЕННЫХ ПАГРОЗ

***"Прашу прабачэння ў беларускага народа за страшныя гады фашысцкай акупацыі. Але гісторыю змяніць нельга. Я толькі спадзяюся, многія людзі ўсвядомілі, што любыя войны бессэнсоўныя". Так пачаў сваю прамову ля магілы суайчыннікаў пенсіянер з Германіі Ханс-Вальтэр Ланг.***

Гэта неардынарная падзея адбылася ў канцы мая каля вёскі Кульшычы Валожынскага раёна. Тут, на месцы пахавання нямецкіх салдат, па ініцыятыве Х.-В.Ланга і пры садзейнічанні Беларускага камітэта міру ўстаноўлены рытуальны знак — сяміметровы драўляны крыж, прывезены з Германіі. На ім надпіс: "Тут спачываюць 36 нямецкіх салдат, якія ў ліпені 1944 года на гэтым месцы аддалі жыццё ў бессэнсоўнай вайне".

Імклівa пранёсся час. На пагорку, за гэтай безыменнай магілай, сёння зялёнай сцяной падняўся лес, дзе весела і бесклапотна стракочуць птушкі. А ў той далёкі ліпень стаяла гарачыня, але людзі хаваліся па хатах не ад спякотнага сонца, а ад магчымай сустрэчы з узброенымі ваеннымі. Беларуская зямля ўжо была вызвалена ад нацысцкай нечысці, аднак у ваколіцах бадзяліся дробнымі разрозненымі групамі гітлераўцы. Напэўна, адзін з такіх атрадаў у той поўдзень сутыкнуўся з партызанамі, якія ішлі ў Мінск на парад вызваліцеляў, і быў знішчаны поўнасцю. Жыхары Кульшыч чулі страляніну, але на месца здарэння прыйшлі толькі праз суткі і ўбачылі 36 трупаў. Было вырашана знесці іх у адно месца і пахаваць.

Гэту гісторыю Ханс-Вальтэр пачуў два гады таму ад Феліксa Папялаўскага, былога старшыні сельсавета Кульшыч, і з той пары страціў спакой. Ён добра разумеў, што цяпер нерэальна даведацца, хто канкрэтна ляжыць у агульнай магіле, аднак паставіць тут крыж палічыў сваім абавязкам. Калі чарговы, ужо 21-шы, раз ён, кіраўнік германскай грамадзянскай ініцыятывы "Дапамога Беларусі з Райнхесэна", прыбыў на Валожыншчыну з дабрачынным грузам, то падзяліўся задумай са сваімі даўнімі партнёрамі з Беларускага камітэта міру. Тыя, як маглі, дапамаглі. І вось настаў час: рытуальны знак устаноўлены, прайшоў мітынг, які сабраў разам і пераможцаў той вайны, і пераможаных...

Ксёндз Вяслаў Глымбоўскі з касцёла вёскі Каменя прачытаў памінальную малітву, царкоўны хор дапамагаў яму.

У цырымоніі прынялі ўдзел дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу краіны Мікалай Ешчанка, старшыня Беларускага камітэта міру Іван Кірычэнка, ваенны камісар Валожынскага раёна Сяргей Глябовіч, а таксама аташэ па пытаннях абароны пасольства ФРГ у нашай краіне Хайна Шунке.

Валянціна МЕНЬШЫКАВА.

гасцёўня

# ЛАЎРЭАТ, ЯКІ ЗНОЎ СТАЎ ЛАЎРЭАТАМ

*Сыграць на сцэне, на якой выступаў сам Сяргей Рахманінаў, – мара многіх піяністаў, і яе здзяйсненне – вялікае шчасце. А калі піяністу ўдаецца яшчэ і атрымаць перамогу ў прэстыжным конкурсе, напэўна, гэта выклікае не толькі пачуццё задавальнення, але і з'яўляецца новым імпульсам да творчасці. Так здарылася з маладым беларускім піяністам Канстанцінам Красніцкім. Менавіта на гэтай сцэне ён быў удастоены IV прэміі і звання лаўрэата як удзельнік III Міжнароднага конкурсу імя С.Рахманінава ў Маскве. Дарэчы, гэта ўжо не першая перамога выканаўцы на творчым спаборніцтве высокага ўзроўню. У 1999 годзе ён атрымаў першую прэмію на I Міжнародным конкурсе ў Загрэбе (Харватыя). Пасля гэтага ў адной з беларускіх газет з'явілася публікацыя пад назвай "Клас, у якім цесна лаўрэатам". Размова ішла пра вучняў класа дацэнта Беларускай акадэміі музыкі Уладзіміра Няхаенкі. Новая перамога К.Красніцкага не толькі падкрэсліла педагагічнае майстэрства яго выкладчыка, але і чарговы раз пацвердзіла высокі ўзровень сучаснага беларускага фартэпіяннага выканальніцтва.*

*Ухуткім часе пасля конкурсу з'явілася магчымасць паразмаўляць з Канстанцінам Красніцкім аб яго ўдзеле ў спаборніцтве і аб уражаннях ад гэтага мерапрыемства.*

**— Вы раней наведвалі Маскву ў якасці музыканта?**

— У 1993 і 1997 гадах як слухач прысутнічаў на I і II конкурсах імя С.Рахманінава. Так бы мовіць, прыглядаўся да яго. Вельмі хацелася сыграць на сцэне Вялікай залы Маскоўскай кансерваторыі — сэрца рускага фартэпіяннага майстэрства.

**— Наколькі сур'ёзнай была канкурэнцыя падчас конкурсу?**

— Лічу, на любым міжнародным конкурсе спаборніцтва ўвогуле слабым не бывае, асабліва калі мерапрыемства кшталту таго, у якім я ўдзельнічаў. Сярод піяністаў, што прапанавалі свае інтэрпрэтацыі музыкі Рахманінава, былі прадстаўнікі Украіны, Узбекістана, Эстоніі, Кітая і Японіі.

**— Вы задаволены вынікам свайго ўдзелу ў конкурсе?**

— Можна сказаць, што так, бо ніхто з Беларусі яшчэ не выступаў у Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі ў якасці піяніста-канкурсанта.

**— Што з маскоўскай паездкі запомнілася найбольш?**

— Канешне, у памяці засталіся эмоцыі, выкліканыя выхадам на сцэну: мора слухачоў, высокапрафесійнае журы з Вялікабрытаніі, Аўстрыі, Канады, Бельгіі, Карэі і іншых краін і... зала, у якой калісьці іграў сам Сяргей Рахманінаў. Гэта незабыўнае ўражанне. Але зараз мне ўспамінаецца выпадак у II туры конкурсу. У час выканання "Гумарэскі" ў раяля вылецела струна. Тады я думаў толькі аб тым, каб не згубіць канцэнтрацыю і давесці твор да апошняй ноты. Гэта, канешне, не лепшы момант, але ўсякае здараецца.

**— Засталося атрымаць ваш адказ на традыцыйнае пытанне аб творчых планах.**

— Пасля конкурсу ў Маскве я атрымаў шмат прапаноў з Расіі і далёкага замежжа, так што наперадзе — канцэртныя гастролі...

Марына МРАЧКО.

ракурс



Фота БелТА.

## ТАЛЕНТАМ — ПАДТРЫМКА

Маладая актрыса Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Вольга ХАЙКОВА — удзельніца міжнародных фестываляў "Славянскія тэатральныя сустрэчы" і II Шэкспіраўскага фестывалю ў Польшчы. Яе калега Вольга ЗЕЛЯЗЕЦКАЯ — дыпламантка рэспубліканскага фестывалю творчай моладзі ў Гродне. Яны ўдастоены прэміі Гомельскага аблвыканкама па падтрымцы творчай і таленавітай моладзі.

кнігарня

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

"Беларускі кнігазбор" выдаў "Выбраныя творы" Наталлі Арсенневай. У кнігу ўвайшлі вершы, паэмы, лібрэта оперы "Усяслаў Чарадзей", пераклад "Песні пра зубра" М.Гусоўскага, а таксама ўспаміны і лісты пісьменніцы.

вандроўка

# СУСТРЭЧЫ Ў ЧЭХІІ

*Яшчэ ў савецкі час мне давялося служыць у Чэхаславакіі. Тады і зарадзілася наша дружба з Марыяй і Ёэфам Чэпічкамі. Сябруем ужо 17 гадоў. Ні час, ні палітычныя перамены на карце свету не разлучылі нас, і, як раней, чэхі – жаданыя госці ў Мінску, а я – у Чэхіі. Вось і летась мы з сынам, які нарадзіўся ў Чэхіі, атрымалі чарговае запрашэнне да сяброў. Яны жывуць у маляўнічым краі – Усходняй Чэхіі, дзе сярод высокіх гор і прыгожых перадгор'яў захаваліся некранутыя дрымучыя лясы. Упрыгожваюць краявіды шматлікія азёры і сажалкі. Сярод гэтай прыгажосці то тут, то там сустракаюцца кампактныя прамысловыя цэнтры і ціхія вёскі. Хаця тыя, каму давялося быць у Чэхіі, добра ведаюць, што паняцці "вёска" і "горад" тут даволі ўмоўныя, бо розніца паміж імі перастала існаваць яшчэ ў 50-я гады мінулага стагоддзя.*



Турыстам, якія раней падарожнічалі па Усходнечэшскай вобласці, адразу ж кідаюцца ў вочы сур'ёзныя перамены, што адбыліся ў гэтых мясцінах за апошнія дзесяцігоддзе. Амаль у кожным раёне іх ўвагу прыцягнуць яркія паказальнікі, якія запрашаюць наведаць старажытныя замкі ці сядзібы, шматлікія адрэстаўраваныя помнікі гісторыі.

Незвычайная архітэктура гатычных замкаў, элегантных палацаў і сядзіб у стылі рэнесансу, барока, ампір. Прыгажосць і раскоша гэтых помнікаў — сведчанне мастацкага густу і майстэрства іх стваральнікаў — соцень безыменных майстроў, рамеснікаў і мастакоў, якія жылі ў бедных слабодках вакол замкаў феадалаў. Тут, у замках, знаходзяцца багатыя экспазіцыі старажытнай зброі, скарбы чэшскага і сусветнага жывапісу, калекцыі экзатычных паляўнічых трафеяў, сабраных у Афрыцы і краінах Усходу. Усё гэта ў поўнай меры адносіцца і да замкаў у горадзе Літамышль, Сваянаў, Перштэйн. Апошні прыцягваў сюды савецкіх рэжысёраў для здымкаў цудоўных фільмаў-казак. У Літамышлі ў 1578 годзе вырас манументальны рэнесансны замак, які захаваўся ў нязменным выглядзе да нашых дзён.

Звычайна ўсе сярэднявечныя замкі будаваліся ў маляўнічых мясцінах высакагор'я. Адзін з вядомых цэнтраў летняга і зімняга турызму — Пэц пад Снежкай — таксама знаходзіцца пад самай высокай гарой масіва Крканошэ (1 602 метры). Даўно марыў пабыць там у разгар гарналыжнага сезона. Умовы для лыжнага слалама і сноўборда там цудоўныя, а цэны досыць умераныя. Кошт жа прадуктаў харчавання блізкі да нашага.

Вялікую частку тэрыторый паміж Турнавам, пасёлкам Ктова, горадам Мніхава-Градзіштэ плошчай 120 квадратных кіламетраў за рэдкую прыгажосць ландшафта называюць "Чэшскі рай". І гэта адпавядае рэчаіснасці, бо цывілізацыя ніяк не закранула гэтыя запаведныя мясціны — роўна настолькі, наколькі неабходна людзям. Дух займае ад прыгажосці гор і перадгор'яў, якія дапаўняюцца пастаральнай сімфоніяй палёў, азёр, рэліктавых лясоў і касагораў у Арліцкіх і Жалезных гарах. Горныя і перадгорныя пасёлкі будаваліся з выкарыстаннем лепшых традыцый народнай архітэктуры. Яны цудоўна ўпісваюцца ў навакольны ландшафт. І важна, што гэтыя збудаванні вызначаюцца не толькі густам, але і рацыянальнасцю ва ўмовах абмежаваных энергарэсурсаў.

Мінулае тут мірна ўжываецца з сучаснасцю, а гарады і маленькія пасёлкі, дзе ёсць усё неабходнае для працы і адпачынку людзей, пакідаюць уражанне гармоніі. Тут камфортна не толькі людзям. У старажытным горадзе Двур-Кралаве на Лабе шмат гадоў існуе вялікі заапарк сярод прыроды "Зоа сафары". Адлавіў дзікіх жывёл у Афрыцы заснавальнік і дырэктар заа-парка інжынер Ё.Вагнер.

Гэта атмасфера гармоніі, відаць, і спрыяла нараджэнню цуда-будаўнікоў, выдатных шкловыдзімальшчыкаў, вынаходнікаў плугa, громаадвода і карабельнага вінта, пісьменнікаў і цэлых дынастый кампазітараў і музыкантаў. У адным з замкаў старажытнага Літамышля ў 1824 годзе нарадзіўся вядомы кампазітар Бедржых Сметана. Тут жа праходзяць канцэрты-конкурсы "Малады Літамышль Бедржыха Сметаны". Дарэчы, у 1984 годзе мне з групай салдат пашчасціла паслухаць такі канцэрт. А запрашэнне мы атрымалі з рук мэра гэтага горада ў знак удзячнасці за дапамогу ў час паводкі.

Дзякуючы маім сябрам Марыі і Ёзэфу Чэпічкам, якія любяць і выдатна ведаюць гісторыю сваёй краіны, даведаўся шмат цікавага.

Каб быць да канца шчырым, не магу не нагадаць пра два выпадкі ў Чэхіі, праз якія я нават згубіў на нейкі час сон. У горадзе Чэска-Трштэбава не аказалася на цэнтральнай плошчы знакамітага помніка "Братанне" работы народнага мастака К.Пакорнага. А ў горадзе Полічка, куды я паўез сына, каб паказаць бальніцу, дзе ён з'явіўся на свет, вырашылі яшчэ ўскласці кветкі на магілу савецкага салдата Мікалая Разумоўскага, які загінуў 9 мая 1945 года і назаўсёды застаўся 19-гадовым. Аднак у цэнтральным парку абеліска ўжо не было, а крыху ў баку стаяў невялікі помнік барацьбітам за свабоду.

На шчасце, мае найгоршыя здагадкі не спраўдзіліся... Аказалася, што помнік "Братанне" цэлы, проста яго перанеслі з цэнтральнай плошчы бліжэй да прывакзальнай. А пра другі помнік мне расказаў мой знаёмы, былы дырэктар школы Богуміл Слані. У час "бархатнай" рэвалюцыі не абышлося без крайнасцей. І ўсё ж пачуццё меры і блізкая нашаму нацыянальнаму характару памяркоўнасць перамаглі, і гараджане прынялі ўзважанае рашэнне: астанкі салдата перанесці на гарадскія могілкі. Дзякуючы стараннямі таго ж Богуміла Слані і яго сяброў на магіле Мікалая Разумоўскага заўсёды жывыя кветкі, у чым мы з сынам і ўпэўніліся.

Два тыдні праляцелі хутка. Яны былі насычаны цікавымі падарожжамі і экскурсіямі. Нашы сябры і іх блізкія не шкадавалі часу і сіл, каб паспець паказаць за гэты час усё самае цікавае, за што ім шчырае дзякуй. За час вандроўкі мы зразумелі: Чэхія — прыгожы і гасцінны край, а галоўнае яе багацце — людзі.

Мікалай ЛЯБЕДЗІК.

НА ЗДЫМКУ: Мікалай ЛЯБЕДЗІК (крайні справа) з чэшскімі сябрамі.

Фота Ёзэфа ЧЭПІЧКІ.

спадчына



# Вясковыя святыні Случчыны

*У духоўным жыцці беларускага сялянства заўсёды адыгрывалі вялікую ролю мясцовыя святыні – святыя крыніцы, узгоркі, камяні, дрэвы. Шмат якім з іх пакланяюцца і сёння, пра некаторыя захавалася толькі народная памяць. Наконт з'яўлення кожнай такой святыні існуе шэраг паданняў. Найчасцей расказваюць, што на гэтым месцы аб'явіўся абраз Божай Маці або нібыта Божая Маці ступіла на камень і пакінула свой след.*

У многіх мясцінах такія святыні называюць прошчамі. Там адбываюцца маленні: людзі просяць у Бога здароўя, паспрыяць у гаспадарчых і жыццёвых справах, даравацъ — адпрасіць грахі. Сюды нясуць ахвяраванні — лён, палатно, воўну, масла, сыр, яйкі, кветкі, грошы. У народзе ўсе такія дзеянні называюць абраканнем. На прошчах ставяць крыжы, абвязваюць іх ручнікамі, стужкамі, фартушкамі. Таму такія крыжы і завуцца абракальнымі.

Этнографы пачалі вывучаць вясковыя святыні ў XIX стагоддзі. Да сённяшняга дня вядуцца навуковыя дыскусіі па вызначэнні месца гэтых помнікаў у гісторыі культуры. Адны вучоныя звязваюць іх з наяўнасцю перажыткаў язычніцтва, іншыя лічаць з'явай другаснай рэалізацыі. Але ўсе пагаджаюцца ў адным: вясковыя святыні спалучаюць элементы хрысціянскай дагматыкі і абраднасці з рэшткамі дахрысціянскіх культаў.

Кожная такая святыня мае свой прыход, сваё свята і свайго захавальніка. Раней, у XIX — пачатку XX стагоддзяў, на самых значных прошчах па святах адбываліся фэсты, часта з вялікімі кірмашамі, на іх збіралася 5—10 тысяч сялян і каля 200—300 старцаў-жабракоў. Ад бліжэйшага храма да прошчаў ішлі хрэсным ходам. У пазнейшы гістарычны час, асабліва пры савецкай уладзе, некаторыя прошчы выконвалі функцыі хрысціянскіх храмаў: сюды неслі хрысціць дзяцей, ішлі маладыя ў час вяселля.

Як Лагойшчына знакамітая сваімі ўзгоркамі, так Случчына — святымі месцамі — прошчамі. Адпаведна тлумачальнаму слоўніку беларускай мовы пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы, прошча — месца (крыніца, камень і г.д.), надзеленае, паводле ўяўленняў веруючых, надзвычайнай сілай.

Самай знакамітай прошчай на Случчыне лічылася Еўліцкая. Яшчэ на пачатку XX стагоддзя яна была вельмі папулярнай. А.Сержпутоўскі ў кнізе "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" запісаў паданне пра ўзнікненне гэтай прошчы. Паводле падання,тут гуляла дзяўчынка гадоў 8-9. І аднойчы ўбачыла на гары Багародзіцу. Божая Маці з'явілася і на наступны дзень і сказала, каб на гэтым месцы паставілі крыж. Калі ён быў пастаўлены, да яго пайшлі людзі, прыносілі хто што — палатно, воск, воўну, лён, нешта іншае. Усім ім Бог даў палёгку ці вылечыў ад хвароб. А праз некалькі дзён тая дзяўчынка захварэла і памерла, але перад смерцю сказала, што Багародзіца кліча яе да сябе на неба. Пасля гэтага людзі яшчэ больш апантана ўзяліся хадзіць на прошчу, збудавалі там цэркаўку, куды кожную нядзелю прыязджаў весці службу бацюшка. Таму на гэтую прошчу збіраліся не толькі мясцовыя вяскоўцы, але і здалёк.

Калі 16 верасня 2001 года мы, сябры этнагістарычнага цэнтра "Явар", прыехалі туды з надзеяй знайсці хоць крыж на месцы знакамітай прошчы, то нічога там не ўбачылі. Нават не ўсе мясцовыя людзі памятаюць пра колішнюю святыню, а некаторыя і ўвогуле нічога пра яе не чулі. Вера Марцінчык — ужо ў гадах, яна памятае крыжы на гэтым месцы, а што тут стаяла капліча, куды хадзіла шмат людзей, чула ад сваёй бабкі. Крыжы знеслі ў 60-я гады, цяпер тут узаранае поле.

Наступная па значнасці прошча — Дарасінскі святы калодзеж. Каля яго стаіць 11 крыжоў. Прошча знаходзіцца ў лесе недалёка ад вёскі Дарасіно, пасёлка цагельні "Радуга". Гэты помнік вядомы па працах М.Янчука. Да калодзежа ходзяць у асноўным на Макавей, а таксама на Прапалавенне (4-ты тыдзень пасля Вялікадня, у сераду). На Макавея святар, а за ім уся працэсія абыходзяць калодзеж тры разы па сонцы. Гэта ўрочышча завецца Студзянец. Служба пачынаецца ў 11 гадзін. Сюды прыязджаюць здалёк — вёсак Таль, Касцюкі, Юшкавічы,Ператок, Дубнікі, Ракавічы і іншых, нават з Салігорска. Людзей збіраецца шмат, у тым ліку і маладыя з маленькімі дзецьмі. Святар служыць за столікам, які стаіць каля калодзежа, на гэтым століку і вакол яго — посуд з вадой, слоікі з мёдам, мак, букеты чарнічніку.

Калі мы распыталі мясцовых жанчын пра гэта святое месца, яны расказалі, што раней тут біла крыніца, а побач ляжаў камень, і вада бруіла проста з-пад яго. Потым зрабілі драўляны зруб — крыжы ў савецкія часы ставіць забаранялася, — на гэтым месцы ладзілі фэсты, сюды прыязджалі аўталаўкі. Жанчыны згадалі, што некалі даўно тут стаяла капліча памерам 5х6 метраў. Пасля яе перавезлі ў Дарасіно. Апошнія дзесяць гадоў крыжы каля калодзежа ставяць усе, хто пажадае. Зараз іх — адзінаццаць. На крыжы навешваюць самаробныя фартушкі, вышываныя ручнікі, ленты, пасы. Калі крыж трухнее, яго спальваюць, а попел закопваюць пад сасной.

А вось дзве легенды ўзнікнення гэтай прошчы.

Па адной з іх, некалі хлопчык Максім пасвіў тут кароў, стаміўся, вельмі хацеў піць, але не было дзе ўзяць вады. Хлопчык прылёг і заснуў. Раптам чуе: нехта кранае яго за плячо і кажа: "Прачніся, Максімка". Хлопчык расплюшчыў вочы і ўбачыў анёла з крыламі, побач журчэла крынічка.

Другая легенда гаворыць, што чалавек араў поле на валах, таксама стаміўся і прылёг адпачыць, усё астатняе тое самае... Лес навокал сапраўды даволі малады, таму цалкам магчыма, што раней на гэтым месцы было поле.

Недалёка ад Дарасіно, каля вёскіПераток Любанскага раёна, у полі ляжыць камень, які завецца Слядок Божы, або Божы камень. Вакол яго стаяць тры бярозы, рэшткі яшчэ адной, вялікі металічны крыж і яшчэ адзін невялічкі. Лічыцца, што на камені можна разгледзець тры слядкі. Да каменя ходзяць у першую нядзелю пасля маладзіка, а таксама ў Заквітаючую нядзелю ўвосень, льюць ваду ў дзіркі-слядкі на камені. Калі вада пройдзе праз адну дзірку і вылецца з другой, яе збіраюць, і яна лічыцца лекавай. Лечаць ёю рэўматызм, запаленні, розныя застарэлыя хваробы. Мясцовыя людзі, падышоўшы да каменя, кажуць: "Памажы, Божа!"

Цяпер каменю ахвяруюць у асноўным грошы, калі-нікалі ўбачыш там яблык ці цукерку, а раней неслі хто што меў: яблыкі, яйкі, сыр, палатно, ручнікі. Палотны на крыжы навязвалі таксама, як і ручнікі. Жыхарка вёскіПераток, 90-гадовая бабулька Ганна Саланец, 1911 года нараджэння, распавядала нам, што ўсё прынесенае на камень раней забіралі тры старцы, якія жылі ў вёсцы Таль. Старцы былі сляпыя і жабравалі разам з павадырамі. Ганна Мікалаеўна расказвала, што калі яе маці захварэла, то папрасіла схадзіць да каменя памаліцца і абяцаць перад ім, што на працягу ўсяго года, калі ў хату зойдуць старцы-жабракі, то кожны раз будзе адразаць ім палатна на торбу.

Па расказах Ганны Саланец, раней вакол каменя стаяла шмат крыжоў, на іх абракаліся, вешалі ручнікі — тканыя і вышываныя, вакол была агароджа і стаялі лавачкі. ВёскаПераток узнікла ў 1914 годзе, сюды ў асноўным перасяліліся выхадцы з вёскі Таль, а даўней на яе месцы рос лясок.

Пра ўзнікненне гэтай прошчы існуе такое паданне: нехта захварэў, і яму сказалі ісці да каменя, чалавек прыйшоў і вылечыўся.

. Пра Божы камень напісана ў кніжцы Э.Ляўкова "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны". Ён лічыў, што камень трэба захаваць не толькі як культавы рарытэт, але і геалагічны помнік: ён аскепак дэвонскага пескавіку.

Да нядаўняга часу шырокай папулярнасцю карысталася ў наваколлі Святая Гара, або Мір-Гара, каля вёскі Сорагі. Раней на гары была драўляная царква, якую заснавала яшчэ Соф'я Слуцкая. Зараз там стаяць толькі крыжы. На Пакровы на гары збіраліся паломнікі. У гэты дзень тут таксама адбываўся вялікі вясковы кірмаш.

Па паданні, на гары некалі расла сасна, і на ёй цудоўным чынам з'явіўся абраз. Мінаў час, і ад сасны застаўся толькі пень, над ім і пабудавалі царкву. На Пакровы на гэты пень складаюць ахвяраванні — сыр, лён, палатно. Пра паходжанне другой назвы гары — Мір-Гара расказвае паданне: у наваколлі калісьці былі два князі, і іх дружыны хадзілі адна на адну вайной. Але аднойчы князі без зброі сустрэліся на гары і заключылі мір. Адсюль і пайшла назва.

Паклонны камень ляжыць на могілках вёскі Кудзінавічы каля Капыля. На вялікім камені выбіты слядок, ямка і рэльефны крыжык. У народзе лічаць, што след пакінуў Ісус Хрыстос, а ямка засталася ад яго кіёчка. Найбольш да каменя ходзяць на Дзевятнік і ў дзень Святога Роха. Каменю таксама ахвяруюць палатно, лён, сыр, масла, сала, кветкі, грошы. Калі ў каменя просяць дапамогі ў лячэнні каровы, то кладуць на яго масла і грошы, а калі свінні — то сала і грошы. Дажджавая вада са слядка і з ямкі лічыцца лекавай — дапамагае ад хвароб вачэй. У 1912—1913 гадах побач з каменем была пабудавана драўляная капліча. Цяпер на яе месцы ўзводзіцца новая. Каля каменя стаіць крыж, на які завязваюць ручнікі і стужкі.

Яшчэ пра адну знакамітую прошчу, якую экспедыцыя "Явара" наведала ў час леташняга падарожжа, варта расказаць асобна. Гэта так званая Шчыткавіцкая прошча. Пра яе ёсць звесткі ў выданнях: І.Сербаў. "Беларусы-сакуны" (Краткий этнографический очерк), Петроград, 1915; У.Мікіцінскі. "Дванаццаць дзён краязнаўчага вандравання...// Наш край", 1929 год і іншых.

Вёска Шчыткавічы знаходзіцца па левы бок ад старога тракта Бабруйск — Слуцк — Нясвіж. Жыхар гэтай вёскі Васіль Стром, 1928 года нараджэння, правёў нас да прошчы і прыхапіў з сабою Новы Запавет. Прошча знаходзіцца сярод рэдкага сасновага лесу і складаецца са шматлікіх драўляных крыжоў, абвешаных анучкамі, фартушкамі, стужкамі. За крыжамі стаіць цэментавае надмагілле з выбітым крыжам. Побач вялікая сасна з раскалатай карой — магчыма, ад удару маланкі. Вакол сасны — каля дзесятка струхнелых крыжоў, абвешаных аброчнымі тканінамі, за імі растуць маленькія сасонкі, на іх таксама навешаны кавалачкі тканін. Перад крыжамі і соснамі ледзь прыкметная ямка. Васіль Яфрэмавіч кажа, што пясочак з гэтай ямкі святы і валодае лекавымі якасцямі.

Паданне пра ўзнікненне Шчыткавіцкай прошчы такое: за могілкамі, дзе быў Барысаў Гай, адной жанчыне, калі яна збірала грыбы, нібыта з'явілася "пані з дзіцем", якая сказала паставіць на тым месцы крыж. Жанчына не паслухалася, пасля чаго ў яе захварэлі вочы. Тады паўтарылася тое самае, але жанчына адгаварылася другі раз тым, што яе сын не ў поўным розуме і таму няма каму ставіць крыж. "Пані" сказала, што крыж паставіць той, каго першага сустрэне жанчына. Такім чалавекам быў ляснік, ён і паставіў крыж. Пасля гэтага ў жанчыны вылечыліся вочы. Пад крыжам, на зямлі, нібыта і цяпер можна ўбачыць след — там, дзе сядзела "дзіця пані".

Пасля многія пачалі ставіць тут крыжы і ўзводзіць каплічкі. Сюды прыходзілі паломнікі з далёкіх вёсак, нават з мястэчка Пясочнае, што на Нёмане. У кожную маладзіковую нядзелю прыязджаў свяшчэннік і адбываліся набажэнствы. Хто хацеў атрымаць здароўе, ставіў крыж і прыбіваў на яго скрыначку для ахвяравання грошай, якія потым адыходзілі царкве, а іншыя ахвяраванні (масла, сыр, яйкі, тканіны) забіралі старцы-жабракі. Цяпер мясцовыя людзі збіраюцца тут на Радаўніцу, каб памянуць сваіх продкаў, і тады ставяць новыя крыжы.

Наш праваднік сказаў, што зараз за гэтым месцам наглядае ён, робіць новыя крыжы, моліцца. Маліўся і пры нас, раскрыўшы Новы Запавет. Выглядала гэта вельмі велічна. Ён, як сапраўдны святар, стаў каля цэментавага надмагілля, быццам каля алтара, паклаў на яго Святое Пісанне, адну руку ўсклаў на кнігу, другую велічна ўзняў угору. Яго голас быў непахісны і цвёрды. Маліўся ён за сябе, сваякоў, сваю вёску, за дабрабыт і здароўе яе жыхароў, за наша здароўе і здароўе нашых дзяцей. Успрымалася ўсё гэта вельмі натуральна і перакануча, дзейства ўзрушвала. Было зразумела, што ён і яго аднавяскоўцы прыходзяць сюды, быццам у храм, моляцца, абракаюцца, просяць Бога дапамагчы ім у іхнім нялёгкім жыцці.

Ехалі мы дахаты моўчкі, кожны асэнсоўваў убачанае. Думалася: далёка не ўсё яшчэ згублена і парушана на нашай зямлі. Ёсць святыя мясціны ў спрадвечным сэнсе гэтага слова, менавіта — мясціны, куды на працягу стагоддзяў прыходзілі і прыходзяць беларусы, там яны пакідаюць свой боль, адчай і непрыемнасці, а вяртаюцца са шчырым спадзяваннем на лепшае. Яны вераць, што тыя мясціны лечаць не толькі целы, але і душы. І мы — сённяшняе пакаленне — павінны не толькі зберагаць і ахоўваць гэтыя мясціны, але і разумець сэнс іх святасці. Бо калі будуць існаваць яны, будзе існаваць спрадвечная Беларусь, і мы захаваемся як нацыя з багатымі і старадаўнімі традыцыямі.

Людміла ДУЧЫЦ, Ірына КЛІМКОВІЧ.

## беларусы ў свеце

***Пра выдатнага вучонага, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, прафесара Мэрылендскага універсітэта Барыса Кіта напісана шмат. Але найбольш грунтоўнай працай пра яго жыццё і навуковую дзейнасць, безумоўна, з'яўляецца кніга Лідзіі Савік "Космас беларуса", выдадзеная ў 1996 годзе. Праз 3 гады ўбачыла свет кніга А.Чэмера "Выбраныя Богам" (Вільнюс, 1999). Да 90-годдзя Барыса Кіта ў Мінску выйшаў юбілейны альбом – шыкоўнае выданне са змястоўнымі матэрыяламі і шматлікімі фотаздымкамі. Не могуць не зацікавіць чытача і ўспаміны Барыса Кіта "Цярновы шлях", запісаныя Васілём Быкавым летам 2001 года ў Франкфурце-на-Майне, дзе цяпер жыве вучоны. А наведвальнікі Карэліцкага раённага краязнаўчага музея "Зямля і людзі" ў зале, прысвечанай нашым славутым землякам, могуць убачыць дакументы Барыса Кіта, якія ён перадаў у музей на пачатку 90-х гадоў.***

# БАРЫС КІТ і КАРЭЛІЧЧЫНА

Каб нагадаць асноўныя вехі біяграфіі вучонага, звернемся да рукапісу "Біяграфічны нарыс Барыса Кіта", які захоўваецца ў фондах нашага музея. Ён складаецца з некалькіх частак, у якіх аўтар, дзе коратка, дзе больш падрабязна, вядзе аповед пра сваю адукацыю, педагагічную і навукова-даследчую дзейнасць. Адначасова выкарыстаем звесткі пра вучонага з ужо знаёмых чытачу крыніц.

Барыс Кіт нарадзіўся 6 красавіка 1910 года ў Санкт-Пецярбургу, куды яго бацька прыехаў на заробкі з беларускай вёскі Агароднікі, якая з цягам часу злілася з Карэлічамі іператварылася ў вуліцу Кастрычніцкую. У 8-гадовым узросце хлопчык пакінуў горад, жыццё ў якім пасля падзей 1917 года было занадта суровым, і апынуўся на радзіме бацькі, на Карэліччыне, якая ў той час была не надта прыдатным месцам для тых, хто ратаваўся ад голаду, бо яшчэ нядаўна знаходзілася ў прыфрантавой паласе (у час першай сусветнай вайны недалёка ад Карэліч праходзіла лінія фронту). Такім чынам, жыццё хлопчыка ў вёсцы не палепшылася, бо і тут давялося зведаць нястачу. Крыху лягчэй стала, калі да яго далучыліся бацькі, пакінуўшы горад назаўсёды. Але радасць ад сустрэчы атрымалася нядоўгай: хутка Барыс страціў маці, што для 10-гадовага хлопчыка было цяжкім выпрабаваннем.

Вучоба ў польскай школе ў Карэлічах давалася Барысу лёгка: ён быў адным з лепшых вучняў у класе, асобыя поспехі праяўляў у матэматыцы, чым заўсёды радаваў настаўніка гэтага прадмета Сцяпана Рамановіча, які і дапамог свайму здольнаму вучню летам 1926 года падрыхтавацца да паступлення ў Навагрудскую беларускую гімназію.

Непрыкметна праляцелі гады вучобы ў гімназіі. У мінулым засталіся і тыя доўгія вёрсты з Навагрудка да Карэліч, якія не раз даводзілася пераадольваць пехатою, каб дапамагчы бацьку па гаспадарцы. І ўдзел у літаратурных вечарах, і сур'ёзныя экзамены, якія павінны быў здаць выпускнік беларускай гімназіі, каб пацвердзіць сваё права на паступленне ва універсітэт.

І вось нарэшце доўгачаканае студэнцкае жыццё. З верасня 1928 года Барыс Кіт пачаў вучыцца на фізіка-матэматычным факультэце Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, а затым стаў выкладчыкам матэматыкі ў Віленскай беларускай гімназіі.

Якой радасцю перапаўнялася сэрца бацькі, калі сын, цяпер ужо не так часта, як раней, але з'яўляўся на вясковай вуліцы і аднавяскоўцы нібы прырасталі да вокнаў, назіраючы, як па-гарадскому апрануты, на першы погляд, зусім незнаёмы чалавек размерана крочыць да хаты Уладзіміра Кіта. У гэтым інтэлігенце амаль немагчыма было пазнаць таго басаногага падлетка, які некалі па той жа вуліцы гнаў статак у поле, трымаючы пад пахай кнігу.

Назаўсёды звязаўшы сваё жыццё з педагагічнай дзейнасцю, Барыс Кіт прайшоў доўгі шлях ад выкладчыка матэматыкі і дырэктара Віленскай, а потым Навагрудскай гімназіі (1931—1939), інспектара аддзела народнай адукацыі Баранавіцкай вобласці і выкладчыка матэматыкі ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце (1940—1941), дырэктара настаўніцкіх семінарый у Маладзечне і Паставах і гандлёвай школы ў Маладзечне ў ваенныя гады да прафесара матэматыкі Еўрапейскага аддзела амерыканскага Мэрылендскага універсітэта (1972—1993).

Але шлях яго да вышынь у навуцы быў вельмі складаны. Трапіўшы ў эміграцыю, Барыс Кіт, дзякуючы грунтоўнай адукацыі, атрыманай у Віленскім універсітэце, нястомнай працы над пастаянным удасканальваннем сваіх ведаў, падымаючыся па прыступках навуковай кар'еры ўсё вышэй і вышэй, змог поўнасцю рэалізаваць свой інтэлектуальны патэнцыял і стаць аўтарытэтным вучоным у сферы амерыканскай астранаўтыкі.

З "Біяграфічнага нарыса Барыса Кіта":

"Навукова-даследчая праца.

1956-1958 гг. ("Рэквэл Інтэрнэйшнл"), Лос-Анджэлес, Каліфорнія, ЗША, фірма, якая выпрацавала амаль што ўсе найбольш выдатныя амерыканскія касмічныя і аэранаўтычныя праекты, з "Шатл" — галоўным касмічным караблём, "Апалон" — падарожжа на Месяц і г.д. Я працаваў даследчыкам у многіх праектах, дзе заўсёды прымяняецца матэматыка, між іншым удзельнічаў у студыяванні магчымасці ўжывання плыўкага вадароду як будучага ракетнага паліва. Апошняе інспіравала мяне да выдання падручніка па касмічнай тэхніцы і ракетных паліў, які быў першы ў гісторыі. ("Rocket Propeliont Handbook", сумесна з І.Даугласам. 1960. — С.К.)

Прымаў удзел у першых гістарычных перамовах паміж ЗША і СССР па супрацоўніцтве ў галіне касманаўтыкі.

Прымаў удзел у падрыхтоўцы даклада прэзідэнту Ліндану Джонсану аб развіцці тэхнікі ў ЗША, Еўропе і Японіі.

Імя Барыса Кіта ўкладзена ў «капсулу часу» выдатных вучоных астранаўтыкі, якая знаходзіцца ў бібліятэцы Роберта Годарда (ЗША) і якая будзе адчынена праз 500 гадоў».

Здавалася б, той навуковай працы, якая была зроблена Барысам Кітом за гады знаходжання ў ЗША, з лішкам хапіла б, каб яго імя назаўсёды засталося ў гісторыі амерыканскай астранаўтыкі, але няўрымслівы вучоны не спыніўся на гэтым. Пераехаўшы ў Германію, ён стаў прафесарам матэматыкі Еўрапейскага аддзела амерыканскага Мэрылендскага універсітэта і ў 72-гадовым узросце абараніў доктарскую дысертацыю, атрымаўшы навуковую ступень доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі.

Не выпадкова навуковая дзейнасць Барыса Кіта па заслугах ацэнена ў многіх краінах свету. Яго прыналежнасць да Амерыканскага і Нямецкага астранаўтычных таварыстваў, Брытанскага міжпланетнага таварыства, абранне яго акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы (1994), узнагароджанне залатым медалём Германа Обэрта за работы па астранаўтыцы (1995) — гэта прызнанне неацэннага ўкладу выдатнага вучонага ў скарбніцу сусветнай тэхнічнай думкі.

Вяртанне Барыса Кіта на Бацькаўшчыну адбылося амаль праз паўстагоддзя. Ён сустракаўся з беларускімі вучонымі ў Акадэміі навук, яго шчыра віталі былыя вучні гандлёвай школы ў Маладзечне, студэнты і выкладчыкі шэрага вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. У верасні 1994 года Барыс Кіт наведаў мясціны свайго дзяцінства. У час вандроўкі адбылася хвалюючая сустрэча вядомага вучонага з грамадскасцю Карэліч. І хоць нядоўга пабыў у знаёмых мясцінах Барыс Уладзіміравіч, але паспеў убачыць сястру Ірыну і наведаць магілу бацькоў на карэліцкіх могілках. Далей шлях вучонага ляжаў у Навагрудак, з якім у яго таксама звязана шмат цёплых успамінаў і дзе яму ўручылі Дыплом ганаровага грамадзяніна Навагрудка. Завяршылася вандроўка наведваннем Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы, які прысвоіў вучонаму навуковую ступень ганаровага доктара навук.

Барыс Уладзіміравіч і сёння не парывае сувязі з мясцінамі, якія ніколі не забываў у час сваіх шматлікіх вандровак па розных краінах.

З ліста Барыса Кіта ў Карэліцкі краязнаўчы музей ад 14 лютага

*"Вельмі паважаная сп.Святлана!*

*Дзякую за Ваш ліст. Безумоўна, буду старацца памагчы Вам у Вашай музейнай дзейнасці, чым толькі змагу. Цешуся, што Вы маеце амаль што ўсе кнігі пра мяне, што можаце скарыстаць у Вашай кнізе, якую Вы падрыхтоўваеце ў сувязі з юбілеем Дамейкі. Што датычыць Рамановічаў, дык ёсць пра Сцяпана Рамановіча вельмі шмат:*

*1. "Космас беларуса", старонкі 45-46, 65.*

*2. "Цярновы шлях", старонка 4, 5 у аповедзе першым. Карыстайцеся гэтым.*

*Валянціна, я асабіста не ведаў, але чуў, што ён быў таленавітым мастаком. Частку майго архіва, як паведамляў Вам мой брат, перашлю пры першай магчымасці.*

*Жадаю Вам усяго найлепшага.*

Барыс КІТ".

Вось на гэтым я пакуль што заканчваю свой расказ пра вучонага. Спадзяюся, што ў хуткім часе тыя дакументы, якія Барыс Кіт плануе перадаць у наш музей, папоўняць музейную экспазіцыю, што расказвае пра імклівы ўзлёт у навуцы нашчадка сялянскага роду, дзіцячыя і юнацкія гады якога прайшлі на Карэліччыне.

**Святлана КОШУР,**

старшы навуковы супрацоўнік Карэліцкага краязнаўчага музея "Зямля і людзі".

## зваротная сувязь

ЛІТВА, ВІЛЬНЮС

### БЕЛАРУСКІ КЛУБ "СЯБРЫНА"

*"Спакон вякоў пяе народ,*
*і песні б'юць жывой крыніцай.*
*Мы з плыні тых крыштальных вод*
*спяшым з прыемнасцю напіцца..."*

Радкамі гэтага верша пачала канцэрт вядучая клуба аматараў беларускай народнай творчасці "Сябрына" Валянціна Іванова.

Сустрэча з беларускай народнай песняй заўсёды свята — чыстае, лагоднае, светлае. І не толькі для беларусаў, але і для палякаў, і літоўцаў. У гэтым упэўніліся самадзейныя артысты вакальнага ансамбля "Сябрына" Віленскага беларускага клуба і ўдзельнікі ансамбля "Журавінка" са школы імя Францішка Скарыны ў час сустрэчы з жыхарамі Віленскага раёна.

У канцэрце прагучалі песні "Такія мы ёсць, беларусы" (словы І.Цітаўца, музыка А.Аўсюка), "Гаворка беларуская", "Ой, у полі", "Ой ты, віно-гаркота". А народная песня "Грачанікі" ў выкананні салісткі Наталлі Ярулінай развесяліла гледачоў. З асобай цеплынёй публіка прыняла выступленне падлеткаў. Песні "Ой, у полі ніўка", "Ляцелі дзве птушкі", літоўская песня "Гімінес" і песня на яўрэйскай мове ў выкананні дыпламантак конкурсаў "Дайну-дайнале" і "Муза" сясцёр Маргарыты і Эміліі Стральчэняў былі адзначаны дружнымі апладысментамі. Напрыканцы канцэрта гледачы пачалі падпяваць выканаўцам.

Хутка праляцеў час, а развітвацца не хацелася. З залы гучалі словы шчырай удзячнасці. Вясёлыя, шчаслівыя вярталіся артысты дамоў. Вось і яшчэ ў адным куточку Літвы пачулі беларускія песні, пазнаёміліся з нашай культурай. А наперадзе — новыя сустрэчы, песні, людзі.

Канцэрт адбыўся, дзякуючы кіраўніку "Сябрыны" Раману Вайніцкаму, кіраўніку Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Станіславу Буко, консулу Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Івану Бондару. Аўтобус для артыстаў бясплатна прадаставіў Танрывярдзі Танрывярдзіеў. Асноўны цяжар па арганізацыі мерапрыемства лёг на плечы кіраўніка хору Валянціны Кавальчук.

**Валянціна МІЦКЕВІЧ.**

УКРАІНА, ВІННІЦА



### УСІХ ЗАЧАРАВАЛА "ЛЯВОНІХА"

***Чацвёрты раз на Вінніччыне прайшоў абласны фестываль-конкурс мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей і этнічных груп. І кожны раз у ім актыўны ўдзел бярэ абласное зямляцтва беларусаў.***

Удзельнікі мастацкіх калектываў рускага, польскага, яўрэйскага, літоўскага, нямецкага, чэшскага, грузінскага і іншых нацыянальных аб'яднанняў, якія жывуць на Вінніччыне, прадэманстравалі на апошнім фестывалі больш за 40 нумароў. І вечар, які прайшоў у вялікай зале абласной філармоніі, найлепшым чынам адлюстраваў дружбу народаў і іх павагу адзін да аднаго. А для беларускай дыяспары чацвёрты фестываль стаў самым радасным, бо нашых самадзейных артыстаў адзінадушна прызналі пераможцамі ва ўсіх намінацыях.

Вакальныя і вакальна-харэаграфічныя ансамблі выступілі так бліскуча, дзякуючы намаганням кіраўніка Юрыя Кашпекава. Шмат папрацавалі над харэаграфічнымі сцэнкамі "Лявоніха" і "Купалінка" Уладзімір Швец і Наталля Лаўранюк. Цудоўна выступіла салістка ансамбля Іна Ляпёшкіна, якая ў свае 14 гадоў ужо двойчы стала лаўрэатам — 3-га і 4-га фестываляў. А калі наш саліст Аляксандр Чарнабай заспяваў "Жураўлі на Палессе ляцяць", усе слухалі як зачараваныя. Прыйшлося яму "на біс" выканаць яшчэ тры песні: рускую, украінскую і цыганскую. Дарэчы, музычную адукацыю А.Чарнабай атрымаў у Мінску. Нельга не згадаць добрым словам і Міхаіла Тышкевіча, які сам не выступаў, але шмат зрабіў, каб арганізаваць самадзейных артыстаў.

Фестываль удаўся на славу. Усіх яднала мастацтва і добры настрой.

НА ЗДЫМКУ: на сцэне Уладзімір ШВЕЦ (Лявон) і Надзея ЛАЎРАНЮК (Лявоніха) з танцавальна-харэаграфічным ансамблем "Купалінка".

**Уладзімір ДЗЯМЕШКА,**

старшыня Вінніцкага абласнога зямляцтва беларусаў.

## зваротная сувязь

АНГЛІЯ

### ДЗЯКУЙ УСІМ, ХТО АДГУКНУЎСЯ

Паважаны рэдактар!

Пішу, каб падзякаваць Вам, а праз Вас усім, хто адгукнуўся на заклік, змешчаны на старонках Вашай газеты ("ГР" №№ 19-20 ад 8, 15 мая б.г.), каб выказаць заклапочанасць будучыняй нашага рэлігійна-культурнага асяродка ў Лондане і яго цэнтра "Марыян Гаўз". Для мяне, каму прыйшлося правесці больш як паўстагоддзя ў асяродку, — гэта вялікая маральная падтрымка.

Я толькі што вярнуўся з Рыма і магу сказаць, што царкоўныя ўлады атрымалі шмат лістоў наконт гэтай справы з усіх куткоў свету і што пажаданні, выказаныя ў лістах, узяты імі пад увагу.

Безумоўна, усё на гэтым свеце мае сваё заканчэнне, у тым ліку і наш Лонданскі асяродак. Тым не менш, думаю, што ён яшчэ можа быць карысным для Беларусі і Царквы.

Сёння яшчэ рана казаць, якое будзе канчатковае вырашэнне гэтай справы, але ёсць надзея, што яно стане для нас памысным.

Тым часам дзякую яшчэ раз за падтрымку.

**Айцец Аляксандр НАДСАН.**

*Лондан, 4 чэрвеня 2002 года.*

P.S. Дарэчы, у гэтым месяцы ў нашым асяродку адбудзецца святкаванне Купалля і гадавы з'езд Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

*літаратурная старонка*

# ПРАГА

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

## Аповесць

Працяг. Пачатак у №№ 15–23.

Яму згадаўся анекдот пра мужыка, які ў хаце сваёй сабраўся быў вешацца.

Прывязаў вяроўку, намыліў яе, стаў на зэдаль, надзеў пятлю — і ў апошні момант убачыў на стале недапітую пляшку. "Я павешуся, а нехта дап'е? — падумаў мужык. — Э не, так не пойдзе..." Злез, дапіў, зноў надзеў пятлю — і ўбачыў амаль напалову недапаленую цыгарэту, здаравенны бычок. "Я павешуся, а нехта дапаліць?.." Злез, запаліў, выйшаў на балкон... Уверсе птушкі пяюць, унізе дзеўкі-танкеткі абцасікамі цакаюць... Мужык пстрыкнуў бычком з балкона, азірнуўся на вяроўку, пацягнуўся і сказаў: "Э не... Я павешуся, а жыццё, бач ты, возьме ды наладзіцца!"

Брызін дапаліў папяросу — і яго пацягнула прылегчы.

Ён лёг спінай на канапу і пачуў, як спачатку аднекуль зверху, а потым і знізу, і з усіх бакоў ціха загучала музыка. Са столі пацякло па сценах, па дыванах, зазіхацела на старадаўняй зброі жаўтаватае святло, нібы гасцёўня напаўнялася сонцам. Святло цякло хвалямі, набягала само на сябе, як вада на ваду пры беразе, і адна хваля падхапіла Брызіна, пад яе яшчэ мякчэй паслалася другая, яны прыўзнялі Андрэя, загушкалі, пасля ўплылі ў яго — і ён сам стаў лёгкай хваляй на хвалях, разам з якімі плаўна-плаўна, паволі-паволі і ў той жа час неверагодна хутка то ўздымаўся вышэй ад столі і неба — да самых зорак, то ападаў ніжэй ад падлогі і зямлі — да самых нетраў...

Ён быў нідзе і ўсюды, ні ў чым і ва ўсім — без канца і пачатку... І ён не адчуваў асалоду, а быў самой асалодай, якая гранічна сама сябе адчувала... Тое зусім маленькае, што яшчэ заставалася ў гэтай асалодзе Брызіным, баялася асалоды не вытрываць і ад яе памерці...

"Гэта немагчыма, не па сілах чалавечых вытрываць такое, але, калі такое ёсць, дык нехта ж гэта адчувае, павінен адчуваць, калі такое ёсць, але хто?.." — думала тое, што было ў асалодзе Брызіным, і Маша-каханне, хваля-каханне, якая была і часткай асалоды і ёю ўсёю, казала, гучала музыкай: "Я, я, я ўсё гэта адчуваю, я і ёсць твая асалода, і маці твая тое ж адчувае, скажыце яму, Марыя Андрэеўна, хай ён не мучыцца, што нас няма, гэта яго самога яшчэ нямашака..." — і Маша-маці, хваля-маці люляла яго і люлялася ў ім, і казала не асобна, а музыкай гучала разам з Машай-каханнем: "Гэта знак табе, каб ведаў, чаго можаш не зведаць і не адчуць, бо грэх на табе, а ты і не сплаціў яго, і не замаліў, табе і Маша пра тое скажа..." — і Маша-дачка, хваля-дачка ахінула яго, прылегла з ім побач і пачала да яго ласціцца, цалаваць і распранаць, казаць, гучаць музыкай: «Ён мяне любіць, любіць, за ўсіх вас любіць, ён праз мяне грахі свае сплаціў і замаліў...»

Колькі гэта доўжылася па часе, ён не ведаў, бо не было ніякага часу... Наогул не было нічога — і было ўсё... Ён уздымаўся і заміраў ад страху, што не апусціцца з гэтай вышыні, апускаўся і заміраў ад жаху, што не ўздымецца з гэтых нетраў. Хваля за хваляй, хваля за хваляй...

Калі сціхла музыка, згасла святло і апалі хвалі, Брызін, вярнуўшыся з палётаў, знайшоў сябе голага на скураной канапе ў абдымках голай Капіталіны.

Выйшла ўсё, як заўсёды, толькі пад наркатой. Ды яшчэ дачка ягоная, з якой ён зараз грэшна кахаўся, трызніў сябе ў ёй на пару з Капіталінай, была ў бальніцы.

Госпадзі, чаму з дачкой, чаму Маша падмяніла ў гэтым трызненні Капіталіну?.. Брызін чуў і чытаў пра ўсялякія эдзіпавы комплексы, але яго гэта ніякім бокам не чапляла — ненармальнасць нейкая, хвароба, такім эдзіпам толькі яйцы адстрэльваць... Іншым разам ён раўнаваў Машу, загадзя перажываючы тое, што дастанецца яна цыбуку нейкаму ў жонкі — і давядзецца яе з цыбуком тым дзяліць. Ці яшчэ з якім неграм... Але ж гэта бацькоўскае, нармальнае, што можна ўсвядоміць і зразумець, а ў падсвядомасці — такое!..

— А Лёня дзе?.. — спытаў Брызін.

— Па кветкі пайшоў... — прамармытала Капіталіна. — Я салодкая табе?..

— Як кава з цукрам...

— Я не п'ю каву з цукрам...

— Я ведаю...

— Адкуль?..

— Генеральскія дочкі каву з цукрам не п'юць...

— Я не дачка, я ўнучка...

"Сапраўды, — успомніў Брызін, — Да ўнучак ужо дабраўся, педафіл..."

— Табе колькі гадоў?..

— Дваццаць чатыры...

"Выглядаеш маладзей", — хацеў сказаць Брызін, але не сказаў, бо Капіталіна выглядала і на дваццаць чатыры, і на чатырнаццаць, і на трыццаць пяць.

— І даўно ты...

— Даўно...

— Я не паспеў яшчэ спытацца...

— Я зразумела... Ты заходзіў і ў ванну, і ў спальню, я забылася замкнуць... Але я гэта кіну...

— Кідай...

— Хоць гэта не больш шкодна, чым піць...

— Гэта больш небяспечна, чым піць...

— Небяспечна жыць, ад гэтага паміраюць...

— Ніхто не памірае...

— Як гэта?..

— Калі памрэш, зразумееш...

— А ты памёр?..

— Памёр...

— Як мае бацькі?..

— Як твае лялькі...

— Шкада...

— Чаму?..

— З табой добра...

— А ты са мной была?..

— З табой... А з кім яшчэ?..

— Ну, ці мала з кім... З Лёнем... З бацькам...

— А...

— Што "а"?..

— Гэта "траўка" такая, яна падмяняе... Усё ў нас саміх, а яна вызваляе...

— Дык з табой было такое?..

— Не... Мяне п'яны бацька без ніякай "траўкі", на яве, на гэтай самай канапе... Яны праз тое і ў Анголу з'ехалі, я бачыць яго не магла... Павесіцца спрабавала... Каб не дзед...

Брызін сеў на канапе.

— Як гэта на яве? Бацька?..

— Ты чаго ўсхапіўся? — пашукала яго рукамі Капіталіна. — Хіба не чуў пра такое?.. Давай паляжым...

— Холадна, — падняўся Брызін і пачаў выварочваць на правы бок штаны, сцягнутыя з яго Капіталінай разам з трусамі і шкарпэткамі. І штаны, і трусы, і шкарпэткі, і пінжак з кашуляй з генеральнага дырэктара Андрэя Аляксандравіча Брызіна былі новыя, без дзірак.

У вітальні раптам прыглушана зайграў гімн Савецкага Саюза.

— Колькі ж часу?.. — пачаў шукаць гадзіннік Брызін, але ўспомніў, што Савецкага Саюза няма. — Што гэта?..

— Званок такі дзвярны, — прыпаднялася Капіталіна. — Лёня кветкі прынёс, адчыні...

— А ты?..

— Што я?..

— Ты ж голая, апранайся.

— Я і голая магу кветкі ўзяць, — пайшла да дзвярэй Капіталіна...

Брызін пераняў яе, заштурхаў разам з трантамі ў ванну і тады ўжо адчыніў дзверы.

Лёня быў без кветак.

— Я ў бальніцу з'ездзіў... — ціха і вінавата прагаварыў Лёня, не пераступаючы парог. — Самсон Самсонавіч прабачаўся... што да вас не дазваніцца...

На Лёневым твары ўсё было напісана, хоць ён не ведаў, як пра гэта ўсё сказаць.

— Вы самі пазваніце...

— Зараз, зараз... — палез па кішэнях шукаць тэлефон Брызін, але яго хіснула да сцяны, ён прываліўся да яе спінай і асеў на падлогу.

Лёню ў дзвярах і Брызіна на падлозе і застала Капіталіна, калі мокрая і голая выйшла з ваннай з трантамі ў руках.

— А кветкі... — Капіталіна асеклася і пры іх на мокрае цела пачала апранацца...

— Каб я магла памяняцца з Машай, я б памянялася, — апрануўшыся, зусім цвяроза і зусім сур'ёзна сказала Капіталіна. — Так мне абрыд гэты мульцік, што болей не магу...

З Лёнем, з Капіталінай ды яшчэ з Бегунком Брызін Машу і пахаваў. Не стаў званіць ні яе сябрам і сяброўкам, ні Таісіі. Труну несці наняў чужых людзей з пахавальнай канторы. Самсонавых.

Два дні пасля хаўтур ён не выходзіў з дому. Не піў, не еў, нічога не рабіў, ні пра што не думаў — ляжаў бервяном.

"Ты страшны чалавек, Андрэй, ты страшны чалавек!.. Як ты жывеш?.. Табе нельга жыць!.. Ты страшны чалавек..." — круцілася ў мазгах адна фраза, як на кружэлцы.

На трэці дзень ён спусціўся ў падвал, дзе ў яго быў прыхаваны пісталет, вярнуўся ў дом, замкнуўся, паклаў пісталет на стол у кухні і доўга на яго глядзеў...

Як гэта зрабіць?..

Запіску пакінуць?.. Але каму?.. Машы ўсё ён хутка сам раскажа...

Ці не?.. Гэта ж страшны грэх — самазабойства... Можа, і не спаткаецца ён з Машай?..

Там будзе відаць...

Трэба некаму пазваніць, каб заўтра зайшлі... А то ён згніе тут, у Таісіі ключоў няма...

А каму пазваніць?.. Хоць ты сам сабе пазвані...

Пачакаць трэба, пакуль яму нехта пазвоніць... Хто першы — той няхай заўтра і прыходзіць...

Дажыўся — пахаваць няма каму...

А можа, загадаць?.. Калі пазвоняць хутка і пазвоніць жанчына, значыць, Маша яго чакае... Калі не хутка і мужчына, значыць...

Брызін уключыў тэлефон, падцягнуў яго да тапчана ў вітальні, паставіў на падлогу, паклаў побач пісталет, лёг і стаў чакаць...

Мінула пяць марудных хвілін, доўгіх дзесяць, невыносных паўгадзіны... Не званіў ніхто...

Брызін падняў трубку — гудок быў. Кладучы трубку, ён выпадкова націснуў кнопку аўтаадказчыка.

Тэлефон зашапацеў, матаючы мікракасету.

"Тата, я забылася табе раніцай расказаць, які мне дзіўны сон прысніўся... Быццам мама жывая, такая прыгожая, ні на адным фотаздымку яе такой няма, і я неяк перанарадзілася ў вас, ну, нарадзілася зноў, нанава. І мама кажа табе: давай выкінем яе, нашто нам яшчэ адна такая самая?.. І ты адказваеш: праўда што, адной Машы досыць. А я ведаю, што я не яшчэ адна, а адна ў вас адзіная, той Машы ў вас ужо няма. Мне самой цікава, дзе яна целам падзелася, бо я ў ёй не памірала — і яна ўва мне засталася. Але сказаць пра гэта — дык выдаць сябе, вы ўбачыце, што я ўсё разумею: і хто вы такія, і што адбываецца... А мне хочацца абхітрыць вас і ўсіх, расці, адпачатку ўсё чыста ў свеце разумеючы, толькі робячы выгляд, быццам я звычайнае немаўлятка. Ты кажаш маме: давай я дзе-небудзь на вуліцы яе пакіну, не ў акно ж выкідваць, і я разумею, што ты хітруеш, нідзе мяне не пакінеш і нікуды мяне не выкінеш, а завязеш у Сочы да свайго названага брата, каб я там шашлыкі на піках ела. Ты паклаў мяне на задняе сядзенне, у дарозе пачалася навальніца, страшная, з грамамі і маланкамі, мы схаваліся ад яе ў цёмны-цёмны і доўгі тунель, а калі з яго выскачылі, — цябе за рулём не было, машына, як шалёная, сама імчалася...

Дзе ты падзеўся?.. Ты нікуды не едзь сёння, чуеш?.. Нармальны бацька за дачкой не сочыць, як шпіён, і праз тое, што яна з неграм цалуецца, нікуды не прападзе. І нашто я ў такога яшчэ раз нарадзілася?.."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Цябе так і няма нідзе... Нінэль званіла, пыталася, ці буду я мамай яе называць... Што ў цябе за бабы ўсе нейкія адмарожаныя?.."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Тата, што адбываецца?.. Зноў званіла Нінэль, істэрычна плакала, каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць... А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся".

Бі-бі,

бі-бі,

бі-бі.

А ты

я-го

за-бі.

"Андрэй Аляксандравіч, гэта доктар... Ваш сотавы не адказвае, але я абяцаў пазваніць... Я ад яе не адыходзіў, была надзея, што яна справіцца. Сэрца стала, мне вельмі шкада..."

Шка-да,

шка-да.

"Андрэй... Не ведаю, што сказаць... Якія ад мяне спачуванні. Мне пазванкі на шыі вывернула, грудзі пабіла... Зразумець не магу, як яно выйшла... Павер толькі, што не хацеў... Ні цябе, ні тым болей Машу... А следчы палохае, што пайду за наўмыснае... Калі толькі ты, як бацька, не заявіш адваротнае... Што не было ніякіх прычын, не магло быць такога... Тады можна будзе круціць што-небудзь тэхнічнае, з тармазамі... Штук за дзесяць яны гэта зробяць... Падумай, Андрэй, прашу цябе... Што табе з таго, што я сяду?.. Машу не вернеш.. А нам неяк далей жыць трэба... Кантракт падпісаны — сам ведаеш, які.. Прашу цябе, Андрэй... Я для цябе ўсё, што хочаш, зраблю... Каньяк твой на сябе вазьму, скажу, што па яго і ехаў... Толькі не цягні, бо гэта трэба рабіць зараз, пазней назад нічога ўжо не адкруцім... Чакаю твайго званка... Андрэй, прашу цябе..."

Бі-бі, бі-бі, бі-бі.

"Андрэй, пазвані мне... Хоць скажы, што надумаў... Зрабі штонебудзь, Богам заклінаю..."

Ну, калі Богам...

Брызін пракруціў касету аўтаадказчыка назад.

"...каб ты Сініцына не забіваў, у яго зубы баляць. А ты яго забі, каб зубамі не мучыўся".

Ці аддаць сініцынскую споведзь мянтам?.. Ты не падумаў, мудзіла, што так магу зрабіць?.. Не падумаў, не да таго было...

Паляжаўшы яшчэ і падумаўшы, ён набраў нумар тэлефона Сініцына.

— Ты "Маздзе" сваёй передок адкляпаў?

— Не... Не да таго было...

— Вазьмі на фірме машыну.

На дачу да мяне з'ездзім, Маша прасіла сад абрэзаць... Там і перагаворым.

— Дык я ехаць не магу... Шыю не павярнуць, рукі ледзь падымаю...

— Я паеду, у мяне шыя нармальна круціцца. Хай машыну ў мой двор прыгоняць.

Сініцын засумняваўся.

— Нашто некуды ехаць?.. Давай у мяне ці ў цябе спаткаемся...

— Ну, не хочаш — не едзь. Адзін паеду.

— Якая дача, Андрэй...

— Я ж табе сказаў: Маша прасіла.

паслясловe



# БРОНЗА МУСКУЛАЎ... І КРЫЛЫ ЗА СПІНАЮ

***Чэмпіянат Еўропы па бодзібілдзінгу, які адбыўся ў самай прэстыжнай зале краіны – Палацы Рэспублікі, – стаў уражальным відовішчам.***

З густам стылізаваны пад антычнасць подыум, добрая музыка, мускулістыя атлеты з бронзавымі, бліскучымі ад спецыяльнага крэму пад святлом "юпітэраў" целамі, арыгінальныя лазерныя эфекты. Усё гэтаператварыла культурысцкі турнір у яркае, маляўнічае шоу, сапраўднае спартыўнае свята, якое старшыня аргкамітэта чэмпіянату, віцэ-спікер Палаты прадстаўнікоў беларускага парламента Уладзімір Канаплёў назваў форумам здароўя, прыгажосці і маладосці. "І не выпадкова, — падкрэсліў ён у гутарцы з журналістамі, — другі раз за апошнія пяць гадоў Мінску даверана правядзенне такога прадстаўнічага турніру, таму што ўвага "фізічнай культуры і спорту ў нашай краіне — адзін з прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі".

Такая пазіцыя ў адносінах да спорту і бодзібілдзінгу, у прыватнасці, была па заслугах ацэнена кіраўніцтвам Сусветнай федэрацыі культурызму (IFBB) у асобе выканаўчага памочніка яе кіраў-ніка, легендарнага Бэна Вэйдэра, іспанца Рафаэля Сантохі.

— Я ўжо чацвёрты раз прыязджаю ў Мінск, — сказаў ён, выступаючы перад поўнай залай Палаца Рэспублікі, — і заўсёды заўважаю перамены да лепшага, але адно застаецца нязменным — гэта гасціннасць. Сёння перад вамі паўстануць ва ўсёй прыгажосці наймацнейшыя культурысты Еўропы, а заўтра большасць з нас будзе ўжо ў сваіх краінах — Італіі, Іспаніі, Германіі... І ўсе мы павязем адсюль самыя лепшыя пачуцці.

Больш за 100 спартсменаў з трыццаці краін свету змагаліся за званне чэмпіёна Еўропы ў розных вагавых катэгорыях. Гледачы ўбачылі сапраўдны, захапляючы азарт спартыўных спаборніцтваў.

З дзевяці беларускіх атлетаў у фінал прабіліся толькі чацвёра, што гаворыць аб вялікім напале спартыўнай барацьбы. Але для такога рангу спаборніцтваў — гэта таксама добры вынік. "Серабро" атрымаў толькі адзін з нашых атлетаў — Вадзім Уласаў у катэгорыі да 70 кілаграмаў. Усяго крок аддзяліў ад п'едэстала гонару абсалютнага чэмпіёна рэспублікі гэтага года Сяргея Мялешку, які стаў чацвёртым у катэгорыі да 80 кілаграмаў. Пятыя месцы занялі Андрэй Аксаміт (65 кг) і Дзмітрый Сушко (90 кг).

Лідзіравалі ж на турніры атлеты Расіі, Украіны і Польшчы, якія стварылі сур'ёзную канкурэнцыю нашым хлопцам. Аднак, на думку прэзідэнта беларускай федэрацыі культурызму Уладзіміра Александровіча, беларускія спартсмены зрабілі добры крок наперад. Наша новая зборная, лічыць ён, гучна заявіць аб сабе ўжо на чарговым чэмпіянаце, які пройдзе ў Санкт-Пецярбургу. Галоўны ж вынік турніру ў тым, што ён даў добры штуршок да далейшага і больш прафесійнага развіцця гэтага віду спорту ў нашай краіне.

Усе прызёры чэмпіянату разам з залатымі медалямі павезлі дадому і прыгожыя статуэткі ў выглядзе атлета з крыламі за спінай. На думку Уладзіміра Александровіча, аднаго з аўтараў гэтага прыза, такі вобраз сімвалізуе тое, што занятак культурызмам і ўвогуле спортам нібы акрыляе чалавека, дае яму моц, энергію, здароўе для жыццёвага палёту і дасягнення пастаўленых мэт.

Застаецца толькі дадаць, што ў камандным заліку першымі сталі атлеты з Расіі.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

Фота **Сяргея ДЗЕНІСЕНКІ** і аўтара.





## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 21

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Краіна. 4. Садавіна. 7. Ісціна. 8. Тэрцына. 10. Лагчына. 11. Бавоўна. 12. Локшына. 14. Ганна. 18. Яліна. 19. Гадзіна. 21. Прычына. 22. Мана. 23. Забарона. 26. Адрына. 28. Студзіна. 29. Вясна. 31. Сівізна. 32. Ускраіна. 33. Пашана.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Купіна. 2. Асіна. 3. Аліна. 4. Спадчына. 5. Арэна. 6. Галіна. 9. Навіна. 10. Лукавіна. 11. Багна. 13. Хвіліна. 15. Тканіна. 16. Змена. 17. Цана. 18. Ярына. 20. Сыравіна. 22. Марына. 24. Абарона. 25. Заслона. 27. Айчына. 28. Сліна. 30. Яна.

крыжаванка



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 6. Землякоп. 9. На вадзе: вал, які ўтвараецца на паверхні. 11. Невялікі металічны каўпачок з выбуховым рэчывам для запальвання зарада ў патроне. 13. Пісьмовая або вусная дамоўленасць. 14. Металічная форма для серыйнай вытворчасці чаго-небудзь шляхам штампоўкі. 15. У Старажытнай Русі: гандлёва-прамысловая частка горада, звычайна па-за гарадской сцяной. 17. Высушаны сок з няспелых галовак маку. 22. Асноўная свяшчэнная кніга іслама. 23. Сотая частка якой-небудзь адзінкі. 24. Азартная гульня. 25. Кіраўнік універсітэта ці некаторых іншых вышэйшых навучальных устаноў. 27. Заработная плата, аклад. 29. Землеўладальнік-феадал, які залежыць ад сюзерэна. 31. Частка сэрца, якая перашкаджае адваротнаму руху крыві. 35. Праваднік пры турыстах. 36. У некаторых рэлігіях: злы дух, д'ябал. 40. Вялікі будынак грамадскага прызначэння, які вылучаецца сваёй архітэктурай. 42. Спецыяльная вайсковая група. 43. Паглыбленае ў зямлю памяшканне для захоўвання чаго-небудзь. 44. Невялікая скрынка, часцей за ўсё з кардону. 45. Чалавек, які паходзіць ад шлюбу рускіх з алеутамі, іспанцаў з індзейцамі. 46. Самец качкі. 48. Дарога, якая злучае важныя аб'екты; паветраны, водны шлях. 50. Прыбор, прыстасаванне для якой-небудзь пэўнай справы. 52. Плецены раменны бізун. 54. Тое, што і ліхаманка, малярыя. 56. Частка вупражы (надзяваецца на шыю каню). 57. Неўрадлівая глеба шэравата-белага колеру, бедная солямі. 60. Хор, а таксама ансамбль са спевакоў і артыстаў-музыкантаў. 64. Завостраны кій; драўляны ці металічны стрыжань, на якім смажаць сала над агнём. 65. Тварам да гледача, спераду. 68. Луста хлеба. 69. Тайнае паведамленне уладам пра чые-небудзь недазволеныя учынкі, паводзіны. 71. Металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для раздрабнення, расціранне чаго-небудзь. 72. Дошчачка для абазначэння вагі, нумара, якая прывязваецца да багажу. 73. Акружэнне ўмацаванага месца з мэтай яго захопу. 74. Кавалак бервяна, расколатага напалам. 75. Намеснік правіцеля ў старажытнай Персіі і Індыі. 76. Мяккая здробненая маса з фруктаў або агародніны, прыгатаваная для перапрацоўкі. 77. Службовая асоба, якая абараняе інтарэсы сваёй дзяржавы і яе грамадзян у іншай дзяржаве.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Душная гарачыня, спёка. 2. Буйная выкапнёвая жывёліна з доўгай поўсцю. 3. Дзіцячая хвароба: ненармальнае развіццё касцей і нервовай сістэмы. 4. Рухі мышцаў на твары, якія адлюстроўваюць пачуцці, настрой. 5. Адплата за якую-небудзь крыўду, абразу. 7. Тое, што і багор. 8. Пакаленні, якія паходзяць ад аднаго продка. 9. У старажытнагрэчаскай міфалогіі: падземная, змрочная бездань. 10. Горная асадкавая парода розных колераў, якая складаецца з дробных зерняў кварцу і халцэдону. 11. У некаторых спартыўных гульнях: перадача мяча іншаму іграку сваёй каманды. 12. Сумесь; злучэнне розных элементаў, частак. 16. Светлы круг, ззянне вакол зорак і іншых прадметаў. 18. Занавеска, якая закрывае ложак зверху і з бакоў. 19. Усталяваны парадак. 21. Доўгая вяроўка з пятлёй на канцы для лоўлі жывёл. 26. Выпуклая замкнутая крывая лінія. 28. Пярэдняя частка галавы чалавека. 30. Слова, якое адрозніваецца ад іншага па гучанні, але супадае або вельмі блізкае да яго па значэнні. 31. Тое, што засталося ад пакалечанай або ампутаванай рукі, нагі. 32. Нагляд за кім-небудзь, клопаты пра каго-небудзь. 33. Участак поля, пакінуты на адзін год незасеяным для лепшай падрыхтоўкі яго да наступнай сяўбы. 34. Рад бярвенняў, пакладзеных зверху для прыкрыцця чаго-небудзь. 36. Момант пачатку спартыўных спаборніцтваў. 37. Невялікі хатні ці паляўнічы крываногі і караткаsuccessfully... 

Склалі **Аляксандр ХАЛЕЦКІ** і **Таццяна ПЯТРОВІЧ.**

«Голас Радзімы»
Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь;
Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом «Радзіма».

Наш адрас: 220005, Рэспубліка Беларусь, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: (+375-17) 288-11-97 (бухгалтэрыя, тэл./факс), 288-12-80, 284-76-56, 288-17-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», могуць не супадаць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне №81. Падпісны індэкс у Беларусі 63854. Тыраж 2 082 экз. Заказ 1328. Падпісана да друку 10. 6. 2002 г. у 12.00.

Газета набрана і звярстана на рэдакцыйным настольна-выдавецкім комплексе.

Аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).